ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№33 (2539)

14 жніўня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## ДЫХНУЛА ВОДАРАМ РАДЗІМЫ



За тыдзень знаходжання замежных беларусаў на нашай зямлі пад колы экскурсійнага аўтобуса лягло шмат кіламетраў бойкіх магістральных і сціплых прасёлачных дарог з духмяным водарам смалістай хвоі і хлебным пахам недаспелай збажыны.

**НА ЗДЫМКУ:** замежныя суайчыннікі ў час паездкі па Беларусі.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ПАСЛЯ ПАДЗЕННЯ З ВЫШЫНІ

## САЛОМКА ВЫБРАЛА ЯЕ

Старая ісціна — ведаў бы, дзе ўпадзеш, падсцяліў бы саломкі, як зрэшты, і астатнія прымаўкі ўспрымаецца намі ў пераносным сэнсе. Але нядаўна давялося пазнаёміцца з чалавекам, для якога гэтая народная мудрасць мела літаральны сэнс.

Падала Наташа Бандарэнка страшна. Вышыня 400 метраў уражвае ў любым выпадку, а калі з яе падаеш у некіруемым самалёце — тым больш. Катастрофу гэтую запомнілі многія. Першага лютага 1985 года ў Смалявічах на ўзлёце ўпаў самалёт з лепшымі студэнтамі горада, якіх прэміравалі паездкай у Ленінград. Наташа Бандарэнка ў тым самалёце была сцюардэсай.

— За гады існавання мінскага авіятрада ў катастрофах загінула трынаццаць бортправаднікоў, — расказала Наташа, — жывым застаўся толькі адзін — яна сама.

Хаця ёй да гэтага часу здаецца, што ў той сітуацыі выратавацца павінна было значна больш людзей. Бо яна засталася жывая нягледзячы на тое, што ў час катастрофы стаяла, а многія з пасажыраў, якія сядзелі ў замацаваных крэслах, чамусьці загінулі. Да таго ж, самалёт не проста падаў, а планіраваў, таму што да апошняга моманту экіпаж спадзяваўся пасадзіць яго на пакрытае снегам поле. Дарэчы, другі пілот з гэтага самалёта лятае і цяпер.

Машына ўпала з крэнам, і дзверы не адчыняліся. Ад тых кароткіх мінут, калі прыходзіла ў сябе, у памяці засталіся крыкі, запах смажанага мяса і іншыя рэчы, жыць з якімі ў памяці вельмі цяжка. Калі яны ў зімнім смалявіцкім лесе, нарэшце выбраўшыся з самалёта паспрабавалі пералічыць тых, хто застаўся жывым, іх аказалася 22 чалавекі. Пазней, у спісе на атрыманне грашовай кампенсацыі іх было ўжо ўсяго 18. Што гэта значыць, Наташа не ведае. Дарэчы аб кампенсацыі. У 1985 годзе дзяржава ацаніла панесеныя пацярпеўшымі катастрофу маральныя і фізічныя траўмы ў трыста рублёў. Бог яго ведае, смяяцца ці плакаць, успамінаючы, што вядомы арганіст Цацорын, які таксама апынуўся ў гэтым самалёце і таксама цудам застаўся жывым, так і не змог дабіцца, каб яму выплацілі грошы за прапаўшы канцэртны касцюм... Для Наташы ў гэтыя трыста рублёў, трэба меркаваць, былі ацэнены сорак пяць працэнтаў апёку паверхні цела, пятнаццаць перасадак скуры, шматгадзінныя блуканні паўапранутай па лютаўскім лесе ў пошуках выратавальнікаў, месяцы ў бальніцы, інваліднасць, якая ўжо ніколі не дазволіла працаваць па спецыяльнасці. Зрэшты, на гэта Наташа нават не прэтэндавала. Яна была згодна на любую работу ў аэрапорце, толькі б хоць нешта зарабляць, а галоўнае — быць сярод людзей. Але траўмы пастаянна напаміналі пра сябе, а хворых работнікаў у нас, як вядома, не любяць, нават калі адказнасць за іх абавязаны несці па зусім канкрэтнаму закону. Так і атрымалася, што ў рэшце рэшт засталася Наташа Бандарэнка нікому не патрэбнай, сам-насам з маленькай дачкой і вялікімі праблемамі. Чым толькі не спрабавала яна займацца! Стала вучыцца рукадзеллю, шыццю, вязанню. Але калі цярпенне і сілы падышлі к канцу, а маток воўны стаў каштаваць даражэй, чым уся яе пенсія, нечакана ўспомнілася старое, яшчэ дзіцячае захапленне.

Многа гадоў таму назад упершыню паспрабавала яна плясці з саломы. Паміж майстрам і матэрыялам заўсёды існуе нейкая міс-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

З ТЭАТРАЛЬНАЙ АФІШЫ

## НІБЫТА ДОТЫК ЦУДА...

**«КАСЦЮМЕР» Р. ХАРВУДА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ**

Чаму ў загалоўку сваіх нататак я пазначыў — цуд, скажу пазней. Спачатку занатую тое, што здзівіла мяне на гэтай прэм'еры Купалаўскага тэатра яшчэ да пачатку спектакля. Быў аншлаг. Паўнюткае фае. Нейкі асаблівы пошум, у якім ёсць прадчуванне нечага цікавага і нат нечаканага. І гледачы — маладыя аблічны, юныя постаці, і сталыя людзі яшчэ таксама ў маладых гадах. У свабодна падабраным адзенні, стракатым, але тае вульгарнасці, якая часам кідаецца ў вочы дзе-небудзь на тусоўках, ані — строгі густ.

Чым далей разгортваліся падзеі там, на сцэне, тым больш напружанай... пашанотнай... нават урачыстай рабілася цішыня ў глядзельнай зале. Ні хрумстання, ні шэпту, ні шалясцення, ні чыху! Героі, што жылі сваёй страсцю ў сваім часе, іх пачуцці захаплялі нашых сучаснікаў Адамаў і Еваў. На сцэну глядзелі з дзіцячай верай у праўду адлюстраванага на ёй вядомымі майстрамі і зусім яшчэ маладымі дэбютантамі слыннай акцёрскай трупы.

Што ж так зацікавіла гледачоў? Чаму яны ў чуйнанепарушнай цішыні суперажываюць за ўсё, што адбываецца ў гэтай п'есе?

Час аднаўляемых на сцэне падзей — студзень сорак другога года. Месца падзей — правінцыяльны горад у старой Англіі. Асяроддзе людзей, што сталі персанажамі спектакля, акцёрскае. Гэта разнамасная трупа, сабраная ў хаўрус з хворых і не зусім прыгодных у

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**



Сцэна са спектакля "Касцюмер". Лаўрэаты дзяржаўных прэмій Беларусі народны артыст СССР Мікалай ЯРОМЕНКА (сэр Джон) і артыст Віктар МАНАЕЎ (касцюмер Норман).

Фота А. СПРЫНЧАНА.

ПРАЗ ГУЛАГ

## УЗЫХОДЖАННЕ АЛЯКСАНДРА РАКОВІЧА

Рыхтуючы для 18-томнай Беларускай Энцыклапедыі артыкул пра вядомага навукоўца па аўтаматызацыі праектавання аб'ектаў і працэсаў у машынабудаванні Аляксандра Гаўрылавіча Раковіча, я напісаў па-энцыклапедычнаму сцісла і дакладна: нарадзіўся 28 лістапада 1926 у вёсцы Лясок Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, беларускі вучоны ў галіне тэхнічнай кібернетыкі. Доктар тэхнічных навук (1986), прафесар з 1987. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1978). Акадэмік Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій. Скончыў Навагрудскую настаўніцкую семінарыю (1944), Карэліцкую сярэднюю школу рабочай моладзі з сярэбраным медалём у 1957, Беларускі політэхнічны інстытут у 1963.

Я прыпыніўся. Узніклі пытанні: чаму ў Аляксандра Гаўрылавіча атрымаўся такі пакручасты шлях да набыцця вышэйшай адукацыі ды ўжо ў сталым узросце — 37 гадоў? Што замінала яму раней паступіць у ВНУ: пасляваенныя нястачы, раненне, цяжкая хвароба? Я ведаў пра яго шырокі кругагляд, адукаванасць, цудоўнае веданне гісторыі свайго краю і роднага слова, улюбёнасць у навуковую працу, без якіх немагчыма было б напісаць больш за 20 манаграфій, брашур, даведнікі, падручнік і вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў, і таму

**(Працяг на 3-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ



"З'яўляючыся суверэннай і незалежнай дзяржавай, мы не прымаем ніякага націску звонку — ці з Захаду, ці з Усходу. Падзеі апошніх дзён павінны былі вас у гэтым яшчэ раз пераканаць", — заявіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў ходзе сустрэчы са спецыяльным прадстаўніком Еўрапейскага саюза ў нашай краіне Ары Коста.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

У АФІЦЫЙНЫМ ЛЮСТЭРКУ

## ВІЗІТ У КАЛІНІНГРАД АРГАНІЗОЎВАЎСЯ ПЕРШ ЗА ЎСЁ Ў ІНТАРЭСАХ РАСІЙСКАГА РЭГІЁНА

У сувязі з адменай візіту беларускай дэлегацыі на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнка ў Калінінградскую вобласць 1 жніўня ў Доме ўрада адбылася прэс-канферэнцыя. Яе правёў паўнамоцны прадстаўнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у органах Саюза Беларусі і Расіі — намеснік прэм'ер-міністра нашай краіны Васіль Далгалёў.

Гаворачы аб кантактах нашай рэспублікі з расійскім рэгіёнам, віцэ-прэм'ер адзначыў, што яны актывізаваліся апошнім часам менавіта па просьбе кіраўніка суседняй дзяржавы Барыса Ельцына. Па яго ж просьбе і наладжваліся падобныя сустрэчы. Улічваючы такую зацікаўленасць, беларускі бок пайшоў нават на пераарыентацыю сваіх адносінаў з іншымі партнёрамі. Напрыклад, па пастаўках рыбапрадуктаў з Клайпеды. Гэта значыць, паводле слоў Васіля Далгалёва, супрацоўніцтва развівалася ў інтарэсах перш за ўсё самога расійскага рэгіёна. Больш таго, Беларусь у мінулым годзе прадавала ў Калінінград сваёй прадукцыі значна менш, чым завозіла з гэтага рэгіёна на сваю тэрыторыю. Толькі за адзін год тавараабарот паміж нашай рэспублікай і Калінінградскай вобласцю ўзрос амаль на 80 працэнтаў. Гэта дало магчымасць расійскаму рэгіёну павялічыць колькасць рабочых месцаў, выплачваць зарплату, павысіць дабрабыт саміх людзей. Калі гаварыць аб прыярытэтах гандлю, удакладніў віцэ-прэм'ер, то Беларусь закупляла ў гэтым рэгіёне пераважна газ, рыбу, паперу, кокс, гэта значыць тое, што можна было б набываць у іншых вытворцаў.

Візіт кіраўніка нашай дзяржавы ў Калінінградскую вобласць, які намячаўся на 1—2 жніўня, мог быць вельмі рэзультатыўным. Запрашэнне паступіла ад губернатара рэгіёна Леаніда Гарбенкі, які неаднаразова прысылаў факсы Прэзідэнту Беларусі з просьбай наведаць вобласць. Як адзначыў віцэ-прэм'ер, планавалася заявіць стварэнне сумеснага прадпрыемства па здабычы і перапрацоўцы рыбы і рыбапрадуктаў, гэта значыць ажывіць дзейнасць портаў і заводаў расійскай Балтыі. Меркавалася таксама вырашыць пытанні развіцця транспартнай інфраструктуры Калінінградскага марскога порта, зніжэння падатку на дабаўленую вартасць пры ўвозе ў Беларусь рыбы з гэтага рэгіёна, змяншэння кошту правозу прадукцыі па чыгунцы і гэтак далей.

Словам, сустрэча была старанна падрыхтавана і, як зноў паўтарыў віцэ-прэм'ер, арыентавана перш за ўсё на задавальненне інтарэсаў расійскага боку. Але ў сувязі з вядомымі падзеямі на граніцы і затрыманнем здымачнай групы ГРТ, грамадзян нашай краіны, удакладніў Васіль Далгалёў, літаральна перад выездам адбылася размова з губернатарам. Леанід Гарбенка яшчэ раз пацвердзіў гатоўнасць прыняць беларускую дэлегацыю. І тым больш незразумела, сказаў віцэ-прэм'ер, чаму за некалькі гадзін да вылету дэлегацыі прыйшла тэлеграма на імя Аляксандра Лукашэнкі, у якой ёсць і такія фразы: "Я як прыхільнік свайго прэзідэнта і сын расійскай айчыны прашу Вас урэгуляваць з кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі пытанне наконт затрымання супрацоўнікаў ГРТ. І ў сувязі з узнікшымі акалічнасцямі прашу перанесці на больш позні тэрмін сваю рабочую паездку ў Калінінградскую вобласць". Паводле слоў Васіля Далгалёва, спробы звязацца з губернатарам не прынеслі поспеху. Таму, на яго погляд, такія дзеянні можна расцэньваць, "як абразу нашага Прэзідэнта". Бо, як сказаў віцэ-прэм'ер, наўрад ці такія дзеянні з'яўляюцца ўласнай ініцыятывай самога Леаніда Гарбенкі. Яны "мэтанакіравана спланаваны значна больш моцнымі людзьмі — праціўнікамі інтэграцыі, якія практычна прыносяць у ахвяру інтарэсы расійскага народа". Васіль Далгалёў выказаў таксама спадзяванне, што і калінінградцы, і астатнія расіяне ў цэлым разбяруцца што да чаго. Тым больш, заключыў ён, сёння вынікі інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю ўжо адчувальныя. Але, па перакананні віцэ-прэм'ера, праціўнікі гэтага працэсу "пачалі цяпер канкрэтныя дзеянні па дэзінфармацыі канкрэтных асоб". Васіль Далгалёў усё ж выказаў упэўненасць, што такі факт ні ў якім разе не паўплывае на развіццё інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма суседнімі краінамі.

ІНІЦЫЯТЫВА ЗВЕРХУ

## ГРАМАДСКІ КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫ

20 прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і палітычных партый паставілі свае подпісы пад заявай аб стварэнні Грамадскага кансультацыйнага савета пры Прэзідэнце Беларусі.

Удзельнікі сустрэчы, прысвечанай абмеркаванню прынцыпаў фарміравання, мэтаў, задач і механізмаў правядзення кансультацый у рамках Грамадскага кансультацыйнага савета, лічаць, што гэты савет мог бы выконваць функцыі дарадчага органа пры Прэзідэнце.

З больш чым 30 зарэгістраваных у Беларусі партый ініцыятыву прэзідэнцкай Адміністрацыі па стварэнні Савета падтрымалі прадстаўнікі толькі дзесяці: Беларускай сялянскай, Беларускай народнай, Беларускага навукова-вытворчага кангрэсу, Беларускай аб'яднанай спартыўнай партыі, партыі "За сацыяльную справядлівасць", Беларускага хрысціянска-дэмакратычнага саюза, КПБ, ЛДП, Рэспубліканскай партыі і Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная згода". Дзве буйнейшыя ў краіне партыі — Аб'яднаная грамадзянская і Беларускі народны фронт — катэгарычна адмовіліся ад удзелу ў Грамадскім кансультацыйным савеце. Памочнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў лічыць, што "яны не дараслі яшчэ да палітычнага дыялогу".

ДАБРАЧЫННАСЦЬ




Віцэ-прэзідэнт карпарацыі "Форд Мотар" Вейн Букер перадаў Цэнтру дзіцячай хірургіі 1-й клінічнай бальніцы Мінска і кафедры дзіцячай анестэзіялогіі, рэаніматалогіі і хірургіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў сучасныя медыцынскія манаграфіі па дзіцячай анестэзіялогіі і хірургіі, а маленькія пацыенты атрымалі ад кампаніі "Форд" плюшавых мішак.

НА ЗДЫМКУ: Вейн БУКЕР перадае медыцынскія манаграфіі галоўнаму ўрачу Цэнтра Віктару КУРЭКУ.

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## СУВЕРЭНІТЭТ ЦІ ІНТЭГРАЦЫЯ З РАСІЯЙ

Вучоныя Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў правялі апытанне грамадзян Беларусі на прадмет таго, як людзі ацэньваюць змены ў галіне эканомікі, палітыкі і паўсядзённага жыцця. На анкету адказалі 1 433 рэспандэнты, якія прадстаўляюць розныя сацыяльна-дэмаграфічныя групы насельніцтва рэспублікі.

На пытанне, ці павінна Беларусь быць незалежнай суверэннай дзяржавай, большасць рэспандэнтаў — 85 працэнтаў — адказала сцвярджальна. 13 працэнтаў выступаюць супраць незалежнасці і суверэнітэту. На прадмет таго, якімі павінны быць адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, 41 працэнт рэспандэнтаў лічаць, што адносіны дзвюх незалежных дзяржаў павінны быць "добрасуседскімі". 15 працэнтаў выступаюць за стварэнне "саюза дзвюх дзяржаў". 16 працэнтаў — за аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву.

Большасць апытаных — 54 працэнты — лічаць, што інтэграцыя з Расіяй можа палепшыць эканамічную сітуацыю ў Беларусі. 12 працэнтаў прытрымліваюцца дыяметральна супрацьлеглай думкі. І кожны трэці апытаны — 34 працэнты — не змог адказаць на пытанне аб уплыве інтэграцыі з Расіяй на эканамічную сітуацыю ў Беларусі.

ПОГЛЯД СУСВЕТНАГА БАНКА

## АЦЭНКА БЕДНАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ

Шырокамаштабнае даследаванне па ацэнцы беднасці і перспектывах павышэння ўзроўню жыцця народа ў Беларусі правёў Сусветны банк. Яго справаздача аб гэтым была прадстаўлена журналістам у Нацыянальным прэс-цэнтры 1 жніўня.

У справаздачы рэзюміруецца, што ўзровень жыцця ў Беларусі істотна знізіўся для большасці людзей з моманту набыцця краінай незалежнасці ў 1991 годзе. Разам з тым група пастаянна бедных даволі малая і складае менш 7 працэнтаў усяго насельніцтва. Толькі адна з шасці сямей з'яўляецца беднай на працягу пяці месяцаў і больш. Больш двух трэціх усіх хатніх гаспадарак бедныя на працягу нейкага перыяду ў году. Для 50 працэнтаў усіх сямей перыяд беднасці з'яўляецца кароткачасовым, што працягваецца тры месяцы і менш. На думку галоўнага аўтара дакумента дырэктара Інстытута сацыяльных даследаванняў у Рыме пана Паола Раберці, зніжэнне ўзроўню жыцця з'явілася вынікам эканамічнага спаду і зніжэння даходаў, няроўнасці і неэфектыўных нямэтавых расходаў на сацыяльную абарону.

ПАМЯЦЬ

На будынку мастацкай школы № 1 у Віцебску адкрыта мемарыяльная дошка, што ўвекавечыла памяць народнага мастака Рэспублікі Беларусь Заіра Азгура. На ўрачыстым адкрыцці яе прысутнічалі кіраўнікі горада, шматлікія госці, сын вядомага скульптара Заір Азгур.




НА ЗДЫМКУ: мемарыяльная дошка Заіра Азгура ў Віцебску.

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## КУДЫ ЎКЛАСЦІ ЧЭК «МАЁМАСЦЬ»?

Налічэнне прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць" цягнулася ў нашай краіне амаль 3 гады — аж да канца мінулага года. Апошнія сертыфікаты ўжо наличаных чэкаў былі выдадзены да 1 ліпеня 1997 года. І ўсё-такі каля 3 мільёнаў чалавек чэкі не атрымалі, а значыць у чэкавай прыватызацыі ўдзел прымаць не будуць.

За час правядзення кампаніі ІПЧ "Маёмасць" атрымалі каля 5 мільёнаў чалавек, якім было выдадзена амаль 420 мільёнаў сертыфікатаў чэкаў. Аднак і гэта колькасць чэкаў пакуль не знайшла сабе належнага прымянення. Толькі 53 мільёны чэкаў былі выкарыстаны па прызначэнню — абменены на акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў. Яшчэ каля 100 мільёнаў ІПЧ "Маёмасць" спісана на акцыі інвестфондаў і прададзена або пераафармлена іншым асобам. Не вельмі спрыяе развіццю "народнай" прыватызацыі і адсутнасць на працягу доўгага часу ў нашай краіне праграмы прыватызацыі.

АЛІМПІЯДА Ў МАР дэль ПЛАТА

## ЛУСКАЛІ ЗАДАЧКІ, ЯК АРЭХІ

Аргенцінскі горад Мар дэль Плата з 18 па 31 ліпеня прымаў лепшых юных матэматыкаў свету. Больш за 450 вучняў з 82 краін спаборнічалі ў разгадванні надзвычай складаных задач элементарнай матэматыкі. Бліскуча і роўна выступіла на 38-й міжнароднай алімпіядзе каманда Беларусі. Мінчане Іван Лосеў, Аляксей Коранеў атрымалі сярэбраныя ўзнагароды, а мінчане Аляксей Пагірніцкі, Іван Фамін разам з гамяльчанінам Паўлам Лук'яненкам і Дзімам Шумскім са Жлобіна вярнуліся дамоў з бронзавымі медалямі. І зноў наша каманда апярэдзіла такія буйныя матэматычныя дзяржавы, як Францыя, Італія, Канада.

# УЗЫХОДЖАННЕ АЛЯКСАНДРА РАКОВІЧА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

амаль 20-гадовы перапынак ад заканчэння настаўніцкай семінарыі да атрымання інжынернага дыплома спрадажаў пытанні. А навошта была вучоба ў вячэрняй школе ў 30-гадовым узросце, калі на руках атэстат сталасці аб сканчэнні настаўніцкай семінарыі? Няўжо не хапала ведаў для паступлення ў ВНУ? "Не, ведаў хапала, — адказаў на пытанне Аляксандр Гаўрылавіч. — І не ў хваробе асабістай прычына. Справа ў іншым..." І ён распавёў мне пра сваё жыццё, драматычныя яго павароткі. Я паслухаў столькі падрабязнасцей, якія ніяк не могуць патрапіць у лаканічны артыкул для універсальнай БеЭН. Пра гэта і збіраюся расказаць.

I

З 1933 да 1939 года Алесь вучыўся ў пачатковай школе ў вёсцы Заполле Карэліцкага раёна (падчас знаходжання пад польскай уладай у 1921—1939 гадах Карэлічы ўваходзілі ў склад Навагрудскага павета і ваяводства. Карэліцкі раён утвораны 15 студзеня 1940 года. Таму і сёння Аляксандр Гаўрылавіч гаворыць, што ён паходзіць са старажытнай Навагрудскай зямлі). Заполле зусім недалёка ад роднай вёскі і Шчорсаў — радзімы пісьменніка і вучонага, аднаго з першых акадэмікаў і неадменнага сакратара Прэзідыума АН БССР Я. Нёманскага, апавяданне якога "Над Кроманню" Алесь памятае з дзіцячай пары. У чэрвені 1939 года пасля сканчэння шостага класа і паспяховай здачы ўступных экзаменаў быў залічаны ў Навагрудскую польскую гімназію імя. А. Міцкевіча, а пасля перайшоў у беларускую гімназію. Гэта была вядомая вучэбная ўстанова. Вучыцца ў ёй лічылася гонарам. На высокім узроўні было пастаўлена вывучэнне матэматыкі, гісторыі, літаратуры і іншых дысцыплін. Гімназія выхавала свядомых беларусаў, Алесь называў многія прозвішчы знакамітых людзей, як выхаванцаў і настаўнікаў. Дырэктарам яе быў Барыс Кіт, які пазней працаваў у ЗША ў галіне астранаўтыкі і стаў акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, заслужаным прафесарам Вашынгтонскага Мэрылендскага універсітэта, ганаровым доктарам навук Гродзенскага універсітэта, ганаровым грамадзянінам горада Навагрудка, дзе ў Краязнаўчым музеі яму прысвечаны мемарыяльны пакой і захоўваецца асабісты архіў. Фізіку вёў будучы прафесар БДУ Леанід Барысаглебскі, які, як і Б. Кіт, скончыў фізмат Віленскага універсітэта імя С. Баторыя. Працавалі цудоўныя педагогі Аляксандр і Наталля Орсы, што атрымалі вышэйшую адукацыю ў Празе, Пётр Скрабец, які вышэйшую адукацыю атрымліваў у Рызе і Кіеве.

У сувязі з тым, што беларускую гімназію пераводзілі ў ранг сярэдняй школы, Алесь перавёўся зноў у Запольскую школу, сёмы клас якой ён скончыў напярэдадні вайны ў 1941 годзе. Вучыцца выдатна. Шмат чытаў і марыў набыць вышэйшую адукацыю, каб быць падобным у нейкай меры да тых настаўнікаў з гімназіі, якімі ён ганарыцца, успамінае з цеплынёй і ўдзячнасцю. Калі раён акупіравалі немцы, у школу не хадзіў, дапамагаў бацьку і маці па гаспадарцы: сечкі нарэзаць, буракоў для каровы, бульбы намыць, вады і дроў нанасіць... У вольны час, асабліва ўзімку 1941—1942 гадоў займаўся самастойна, падручнікі не забываў. Асабліва цікава і захапляюча было чытаць падручнікі па механіцы і алгебры. Адчуваў нейкую асалоду, калі ўдавалася рашыць мудрагелістую задачу, лагічна разабрацца з галаваломкай, падабалася скарыстоўваць алгебраічныя формулы для хуткага вылічэння пры памнажэнні лічбаў — і тым здзіўляць сваіх родных.

Цягнула, вельмі цягнула вучыцца далей. І таму ў лютым 1942 паступіў у Навагрудку на 6-месячныя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў. Скончыў іх у жніўні. У мясцовай школе не было месца настаўніка, у іншых у акрузе не бралі: не было яшчэ 16 гадоў, а адпраўляцца некуды далей, дзе можна было ўладкавацца настаўнікам, — не пускалі бацькі, ды і самому боязна было ў такой калатнечы і жудаснай мясарубцы адрывацца далёка ад роднага дому.

Пачуў неяк, што ў Навагрудку арганізавалася беларуская трохгадовая семінарыя. Накіраваўся туды. Спачатку брацьн ні за што не хацелі, бо скончыў курсы. Але ж Алесь упрасіў, і паколькі веды, памяць і здольнасці былі добрыя, то залічылі на 2-гі курс. У 1944 скончыў матуральны, г. зн. выпускны, курс і атрымаў атэстат сталасці. Дырэктарам семінарыі працаваў П. Скрабец, выкладала Іна Рытар — будучая беларуская пісьменніца, якая памерла ў студзені 1997 года ў ЗША. Алесь назаўсёды памятае, што яна пачала настаўніцаю ў семінарыі не з самага пачатку, а крыху пазней. Кнігу яе апавяданняў і аповесцей "У пошуках праўды" Алесю давялося прачытаць праз паўстагоддзя пасля сустрэч у семінарыі.

Праз 2 тыдні пасля вызвалення Карэліч ад фашыстаў, 23 ліпеня 1944 года, Алеся прызвалі на службу ў Чырвоную Армію. Яго накіравалі ў Бранск курсантам снайперскай вучэбнай роты 64 запаснога стралковага палка, пасля курсантам палкавой школы конна-артылерыйскага палка ў горадзе Каменску-Бялінскім Пензенскай вобласці. З вайсковай гэтага палка яму давялося пабыць у Югаславіі і Венгрыі, на ўжо вызваленай ад фашыстаў зямлі. Тым часам крывавая вайна канчалася перамогай, салдаты радаваліся, усё страшнае ўжо было ў мінулым. Алесь падумваў аб тым, дзе пасля службы будзе вучыцца далей, а служыў ён з 1945 па чэрвень 1948 камандзірам гарматы ў Навачаркаску Растоўскай вобласці. Служыў сумленна, меў добрыя поспехі ў артылерыйскай справе, яго гармата здабыла годнасць "снайперскай гарматы" Паўночна-Каўказскай акругі, неаднаразова аб ёй пісалі не толькі мясцовыя, але і цэнтральныя вайсковыя газеты і часопісы. У чорны дзень 30 чэрвеня 1948 года Алесь у сваёй



часці быў арыштаваны і неўзабаве небагрунтавана і паспешліва асуджаны ваенным трыбуналам за "дзейнасць па адколу Беларусі ад Савецкага Саюза", а на самай справе за тое, што на акупіраванай тэрыторыі вучыўся і скончыў беларускую настаўніцкую семінарыю. Як потым даведаўся Алесь, не ён адзін з навучэнцаў і настаўнікаў той семінарыі і іншых вучэбных устаноў Беларусі былі асуджаны на вялікія тэрміны. Такі лёс напаткаў П. Скрабца, хоць і быў ён ужо стары чалавек і ніякай шкоды людзям за сваё жыццё не зрабіў (вярнуўся на Беларусь пасля 1956 года і памёр пасля гэтага мала).

Прысуд для Алеся быў жудасны — 25 гадоў зняволення, 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў і канфіскацыя ўласнай маёмасці. А якая ж маёмасць у вайскоўца тэрміновай службы, хай і камандзіра "выдатнай" гарматы! І таму ў бацькі, паколькі сына асудзілі як "ворага народа", апісалі карову і свінню ў залік "уласнай маёмасці" Алеся. Праз гэту незразумелую канфіскацыю бацькі даведаліся аб страшным горы, што напаткала іх сына.

У 1970 годзе, пасля поўнай рэабілітацыі, яму выплацілі за тую канфіскаваную жывёлу 140 рублёў (з улікам грашовай рэформы 1961 года). Ён спазнаў камеры, нары, "канвееры", карцары, этапы, брыгады ўзмоцненага рэжыму сярод крымінальнікаў, здзек, абразы, холад і голад — усяго нахлябаўся поўнай мерай у турме і лагерах. Алесю ўдалося здабыць падручнік англійскай мовы, і ён стаў вывучаць яе, за што быў накіраваны ў штрафную брыгаду, дзе знаходзіўся вярхі крымінальнага свету і ні аднаго палітычнага. Дзіўна, але крымінальнікі з павагай адносіліся да веды, якіх сам не меў, часта да бойкі спрачаліся між сабой аб тым ці другім факце гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўства, рэлігіі, культуры. Арбітрам у спрэчках выступаў Алесь, і гэта збаўляла яго ад экзекуцый, якія звычайна чынілі крымінальнікі над несваімі. У такіх умовах правёў 6 з паловай гадоў на золатаздабываючых руднiках у Якуціі і Забайкаллі, працуючы забойшчыкам і матарыстам, затым паўтара года на лесараспрацоўках у Кузбасе. Многае з убачанага, перажытага, горкага і трагічнага супадае з тым, што можна прачытаць у творах С. Грахоўскага "Два лёсы — дзве трагедыі", "Зона маўчання", "Такія сінія снягі", "З воўчым білетам", А. Звонака "Прадчуванне", "Светлацені", М. Сяднёва "Раман Корзюк", "Патушаныя зоры", дзённіку Б. Мікуліча "Аповесць для сябе", пісьмах з этапаў і Калымы С. Баранавых, С. Шушкевіча, Л. Геніюш і іншых беларускіх пісьменнікаў. Землякоў жа ў лагерах сустракалася шмат, гэта здзіўляла, бо за страшныя ваенныя гады беларусаў вельмі паменела. Ні ў чым не вінаватыя, яны неслі на сабе кляймо "врагов народа", "предателей", "изменников родины", "шпионов" і іншай "нечисти", якую патрэбна было сцерці ў лагеры пыл.... У 1956 годзе пачалася грамадзянская рэабілітацыя ахвяр палітычнага генацыду. 28 красавіка таго году рашэннем Камісіі Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Алесь Раковіч быў вызвалены са скасаваннем судзімасці, а ў 1970 годзе поўнасцю рэабілітаваны Вярхоўным судом. Цікавая размова адбылася ў Алеся з членамі Камісіі Прэзідыума. На пытанне аб занятках пасля вызвалення ён адказаў, што будзе вучыцца, калі не перашкодзяць. На гэта старшыня камісіі сцвердзіў, што перашкод не будзе, а калі яны ўзнікнуць, то параіў звяртацца да іх. У далейшым на цяжкіх паваротах свайго цярністага шляху да навукі Алесь не раз напамінаў сваім нядобразычліўцам аб змесце гэтай размовы і часам гэта дапамагала ўтаймаваць завельмі непрыкрытых руплівцаў пралетарскай звэрхпільнасці, але ў большасці выпадкаў, гэта заставалася "голасам таго, хто кліча ў пустыні".



II

Вярнуўся Алесь з лагера да бацькоў у вёску Лясок. Цудоўны край, родная вёска здаваліся тады і сапраўды сталіся для яго на ўсё жыццё самымі найдаражэйшымі і светлымі месцамі на зямлі. Ва ўзросце 30 гадоў трэба было пачынаць жыццё як бы спачатку. Менавіта спачатку, таму што спроба ў 1956 годзе падаць дакументы ў ВНУ скончылася чарговым непаразуменнем: на запыт з Міністэрства адукацыі БССР прыйшоў адказ за подпісам намесніка міністра, што атэстат сталасці аб сканчэнні настаўніцкай семінарыі не можа служыць падставай для паступлення ў ВНУ, бо Навагрудская беларуская настаўніцкая семінарыя не прыраўнавана да сярэдніх навучальных установ. Сістэма не давала ходу, трымала ў кіпцюрах і цяпер, пасля 8 гадоў неабгрунтаванага зняволення. Дзе было браць сілы, каб не расчароўвацца зусім, не згубіць надзеі і веры ў дабро і справядлівасць? Родная зямля, любоў да яе, цяга да ведаў ды пытлівы розум, жаданне не скарыцца абставінам далі гэтыя сілы. Хацеў здаць экзамены за сярэднюю школу экстэрнам (тады гэта часта практыкавалася), паехаў у Наваградак у тую школу, дзе можна было гэта зрабіць, але патрабавалі пасведчанне аб нараджэнні. Яно ж згубілася ў час вайны, а для атрымання дублікату патрабаваўся час. Экстэрнат жа чакаць не мог. Прыйшлося ісці ў 10 клас Карэліцкай вячэрняй школы рабочай моладзі. Працаваў на будоўлі і вучыўся. Вучыўся з ахвотай, без натугі, прадметы даваліся лёгка. Скончыў школу ў 1957 з сярэбраным медалём: па ўсіх дысцыплінах былі 5, толькі па рускай мове ў сачыненні знайшлі, што адсутнічала коска, і паставілі 4. Усяго ў Карэлічах у той год у дзённай і вячэрняй школах было 4 медалі. ! адзін з іх быў яго, што адкрывала магчымасць у адпаведнасці з існуючым законам, паступіць у любую ВНУ без экзаменаў. Аблана зацвердзіла рашэнне аб выдачы медаля, але загадчык Карэліцкага раёна з дня на дзень зацягваў выдачу атэстата, а быў ужо ліпень, пачаліся субяседаванні з медалістамі ў ВНУ. Алесь хадзіў кожны дзень да загадчыка раёна, пакуль, нарэшце, той не сказаў, што перадаў атэстат для выпіскі ў школу. Атрымаўшы яго ў дырэктара, паспяшаўся ў Беларускі лесатэхнічны інстытут, бо марыў быць матэматыкам ці хімікам, а якраз па хіміі можна было спецыялізавацца ў лесатэхнічным. Прайшоў субяседаванне: сказалі, што залічаны ў інстытут. Атрымаў выклік, праз пэўны час прыехаў, але ў спісах студэнтаў сябе не знайшоў. І раз, і другі прагледзеў — няма Раковіча А. На душы стала трывожна. Трывога і непакой узмацніліся, калі сакратар прыёмнай камісіі сказаў ісці да дырэктара інстытута. А той кажа: "Вы дарослы, вам будзе цяжка вучыцца, ідзіце на завочны факультэт". Калі Алесь стаў пярэчыць, ён параіў звярнуцца ў ЦК партыі. Быў на прыёме ў намесніка загадчыка аддзела ЦК КПБ па навуцы, які сказаў: "Ідзіце вучыцца без адрыву ад вытворчасці". Калі не згодны, напішыце ў Маскву, ва ўпраўленне тэхналагічных ВНУ Міністэрства вышэйшай адукацыі". Адтуль на пісьмовую заяву адказалі, што павінны вырашыць на месцы, у беларускім ЦК. Дзён праз некалькі з ЦК прыйшла папера з паведамленнем патэлефанаваць па ўказаным нумары. Па гэтым тэлефоне адказалі коратка і безапеляцыйна: "Вучыцеся без адрыву ад вытворчасці". Закон і правa, якое было запісана нават у статуце, аказаліся ніжэй таго званка з ЦК...

Прадпрымаць што-небудзь яшчэ было бессэнсоўна. Праглынуўшы крыўду, прыйшлося ісці на завочны факультэт інстытута. Уладкаваўся на працу на Мінскі падшыпнікавы завод галтоўшчыкам, які мусіў з загатовак кольцаў падшыпнікаў перад іх апрацоўкай на такарных аўтаматах знімаць задзірыны. Займаўся гэтай нялёгкай працай два гады. У інстытуце вучыўся паспяхова па спецыяльнасці "Механічная апрацоўка драўніны". Калі быў на трэцім курсе, перавялі на пасаду інжынера-тэхнолага, пазней — старшага інжынера-канструктара. Гэта ўжо было прызнаннем. Яго прыкмецілі не толькі кіраўнікі, але і многія супрацоўнікі завода, што вучыліся на завочных і вячэрніх факультэтах і звярталіся часта да яго па дапамогу. Непасрэдныя кіраўнікі параілі яму перайсці ў БПІ на "Механічную апрацоўку металаў", бо на заводзе перад Алесем адкрывалася па гэтай спецыяльнасці перспектыва росту.

Дэкан БПІ пагадзіўся з пераводам, але рэктар тэхналагічнага інстытута (так перайменавалі лесатэхнічны), прафесар Віхроў, да якога пакпікалі Алеся, спачатку згоды на пераход не даваў, а ўрэшце рэшт сказаў: "Шкада адпускаць, але вялікаму караблю — вялікае плаванне". "Каб Вашы словы ды Богу ў вушы", — адказаў Алесь, аднак словы рэктара прыняў усур'ёз і стараўся дасканала авалодаць спецыяльнасцю і на заводзе, і ў політэхнічным інстытуце. Скончыў БПІ ў 1963 годзе, атрымаўшы кваліфікацыю інжынера-механіка і спецыяльнасць "Тэхналогія машынабудавання, металарэжучыя станкі і інструменты". Вышэйшая адукацыя, нарэшце, была атрымана.

**НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр РАКОВІЧ у час службы ў Чырвонай Арміі. 1947 г.; ён вучыўся і ў турме. 1954 г.**

**Мікалай САВІК.**

(Заканчэнне будзе.).

# ДЫХНУЛА ВОДАРАМ РАДЗІМЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

На кожным прыпынку гасцей віталі і суніцы спякотнага лета, і звонкая птушыная песня. Паўсюдна спадарожнічалі ім беларуская музыка і песні. Добра валодаючы беларускай мовай і фальклорам, суродзічы з найвялікшым паразуменнем сваіх нацыянальных каранёў выконвалі беларускія народныя песні "У сераду бабка", "Сам не знаю, не ведаю", "Пасеяў гурочкі" пад акампанемент Уладзіміра Паўловіча.

Культарганізатар вандроўкі — балетмайстар, мастацкі кіраўнік нацыянальнага ансамбля "Вячоркі" Беларускага саюза фалькларыстаў Мікалай Котаў, якога з леташняй паездкі ахрысцілі "развясёлым танцаўніком", з яшчэ большым імпэтам весяліў іх зараз, бо многія сталі яго найлепшымі дружбакамі.

— І дзіва дзіўнае, — сказаў наш зямляк з Нью-Йорка, гісторык і журналіст Янка Запруднік, — што вясковыя жанчыны нават свае бульбяныя палеткі пакінулі, каб павітацца з намі. Ці ж гэта не яскравае пацверджанне нашай гістарычна-этнічнай еднасці, дабрыні і любові беларускага сялянства.

— Мы спланавалі паездку так, каб госці найбольш адчулі родныя краявіды, — зазначыў Яўген Лецка. — Каб у поўнай велічы прадстала перад імі культурна-гістарычная спадчына і сённяшняя рэчаіснасць незалежнай краіны.

У пабыўцы гасцей арганічна спалучалася прыемнае з карысным: і наведванне Мірскага і Лідскага замкаў, Нясвіжскага касцёла з пахавальняй Радзівілаў, і Жыровіцкага манастыра, музеяў і майстэрняў народных умельцаў, сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй і фальклорнымі калектывамі, забавы і начлег у леснічоўцы-гатэлі Белавежскай пушчы і на беразе маляўнічага возера Свіцязь.

— Усё ўбачанае кранула самыя тонкія струны душы, асабліва спатканне з волатамі пушчы — зубрамі, якія так вальготна адчуваюць сябе ў запаведнай зоне Брэстчыны. Ды і "славутыя" Віскулі шмат аб чым ускалыхнулі памяць, — выказаўся гадзіннікавы майстар Адольф Субота.

З вялікай зацікаўленасцю ўспрынялі госці праект Мікалая Котава аб стварэнні пры сярэдняй школе № 192 горада Мінска тэатра фальклора пад умоўнай назвай "Бераг белых буслоў" і запэўнілі аб шчырай матэрыяльнай падтрымцы.

— Сем дзён праляцелі, нібы птушка, — падсумаваў уладальнік друкарні ў Саўт-Рыверы Жорж Навумчык. — Гэта было надзвычай цікавае і змястоўнае спатканне з роднымі сэрцу мясцінамі. І вельмі пажадана, каб такія сустрэчы сталі штогадова-традыцыйнымі.

На развітальнай вячэры ў новай кватэры Мікалая Котава было таксама ўтульна і гасцінна. Ужо на ганку дома іх сустрэлі ў нацыянальным адзенні самадзейныя артысты Ніна Мароз, Дзіна Абрамовіч, заслужаны артыст рэспублікі, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля "Свята" Васіль Купрыяненка, паэт, сусед Алесь Пісарык з жонкай Алёнай і трохгадовым сынам.

— Твой родны кут, як ты нам мілы, — падагуліла развітальныя тосты Стася Сумская, некалькі змяніўшы вядомыя вершы Якуба Коласа.

— Забыць цябе не маю сілы, — дадаў Мікола Касцюк з Саўт-Рывера.

**Адольф СУРЫНОВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ: землякі з ЗША ў Жыровічах.**

**Фота У. КАВАЛЬЧУКА.**

## *НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Ад астатняга сёння засталіся толькі каменныя сцены і рэшткі даху. Пра іх не варта было б і ўпамінаць, калі б не рэшткі мазаікі. Падобныя ўзоры з бутавага каменю раней шырока выкарыстоўвалі пры будаўніцтве культавых і гаспадарчых пабудоў у заходніх раёнах Беларусі, але тут яны больш выразныя. Вострыя камяні выкладзены так, што ўспрымаюцца як выява дрэва. Асабліва добра відаць аптычны эфект, калі глядзіш з вугла на дзве сцяны адразу. Хочам мы таго ці не, але знікае яшчэ адзін помнік народнай творчасці. Яшчэ адна з тых дробязей, якімі поўнілася жыццё нашых продкаў.

* * *

Рухаючыся на захад, прасёлачная дарога прыводзіць да Шэметаўскага касцёла. Першы раз я наведаў яго ў 1972 годзе, калі рабіў вучэбны паход па нарачанскім краі.

Яшчэ здаля ўбачылі на адзінокім узгорку беласнежны касцёл. Быў спякотны будні дзень. Ля будынка і ў ім самім прыхаджанкі наводзілі парадак, рыхтуючы храм дзевы Марыі да прастольнага свята. Мы меркавалі, што прысутнасць староніх людзей у час прыбірання зусім не да месца, і былі здзіўлены, калі ў адказ на нашу нясмелую просьбу агледзець касцёл, пажылая жанчына, спытаўшыся дазволу ў святара, запрасіла ўвайсці.

Пасля духаты і пылу мы нечакана акунуліся ў каменную прахалоду — паветра не проста чыстае, а насычанае водарам палявых кветак, якімі жанчыны прыбралі іконы. Жывых букетаў і гірляндаў было столькі, што сярод іх губляліся кветкі, па-майстэрску выразаныя з мармуру і дрэва.

У касцёле нас здзівіла ікона дзевы Марыі ў залатым акладзе. Яна зіхацела ў рознакаляровых промнях вітражоў, кожны з якіх — высокамастацкі твор на біблейскія сюжэты. Усе вітражы выкананы італьянскімі майстрамі, і больш прыгожых у нашай краіне я не бачыў. Загіпнатызаваныя гэтай прыгажосцю, мы не заўважылі, як увайшоў ксёндз Кучынскі. Дарэчы, кандыдат філасофскіх навук. Ён дружалюбна павітаўся і пачаў нязмушаную гутарку — тлумачыў змест карцін, звязаных з жыццём Ісуса Хрыста. Убачыўшы, што я фатаграфую, папрасіў хвіліну пачакаць. Вярнуўся, пераапрануўшыся ў сутану, уключыў падсветку ікон, ад чаго касцёл стаў яшчэ прыгажэйшым, і прапанаваў сфатаграфавацца разам.

Акрамя касцёла ў былым маёнтку пана Баляслава Скірмунта прыцягваюць увагу сажалкі і руіны некалі прыгожай пабудовы. Аказваецца, гэта спіртзавод, які так і не пачаў выпускаць прадукцыю. Скірмунт пабудаваў яго ў 1939 годзе. Усё было гатова да работы, выпісаны інжынеры, нарыхтавана сыравіна, але пачалася вайна. Скірмунты паехалі ў Польшчу. Новага зацікаўленага гаспадара не знайшлося, і паступова будынак разрабавалі. Жанчына, якая расказвала пра маёнтак, на пытанне: "Ці прыгожы быў завод?", цокнула языком і, паківаўшы галавой, прамовіла: "Яшчэ які! А цэхі! У цяперашніх начальнікаў няма такіх кабінетаў".

Яшчэ яна расказала пра трагічны лёс жонкі Баляслава Скірмунта — Ліды. Калі прыйшлі немцы, Ліда з сынам і ўнучкай вярнуліся на радзіму. Сын паступіў на службу да немцаў, займаўся перапісам насельніцтва. Аднойчы партызаны ўварваліся да Скірмунтаў, забілі сына і ягоную дачку і падпалілі дом. На пажарышча збегліся мясцовыя жыхары і знайшлі тры абгарэлыя трупы. Потым удзельнікі гэтай нечувана жорсткай акцыі хваліліся, што на старую пашкадавалі патроны. Яе спалілі жывою.

* * *

На шляху да Блакітных азёраў праходзім праз вёску Засвір. У ваколіцы вёскі стаіць касцёл кармелітаў, пабудаваны ў 1713—1714 гадах. Калі вакол Шэметаўскага касцёла ідэальная дагледжанасць, тут сапраўдны развал — разрабавалі ўсё, што толькі можна было, нягледзячы на тое, што касцёл ахоўваецца дзяржавай.

Першы раз я зазірнуў сюды ў тым жа 1972 годзе. Сярод груды смецця, бітай цэглы, тынкоўкі трапляліся асобныя дэталі алтара, выкананыя традыцыйнай ажурнай разьбой па дрэве. Але ўразіла іншае — у кутку ляжала добра захаваная мумія чалавека. Толькі асобныя часткі былі пагрызены катамі і пацукамі. Тады я яшчэ не ведаў гісторыі гэтай муміі. Пазней мне паказалі фотаздымак, дзе мумія ляжыць у труне, а побач у веку труны — мой сусед-жартаўнік. І вельмі яны падобны адзін на аднаго. Толькі ўзрост розны, аднаму крыху больш за дваццаць, а другому за дзвесце. Фотаздымак зроблены яшчэ ў шасцідзесятыя гады. Разглядаючы альбом суседа, я і пачуў гэтую незвычайную гісторыю. Пабудаваўшы касцёл, Адам, так звалі майстра, палез на дах. Ці то вецер моцна падзьмуў, ці то майстар быў не зусім цвярозы, але яго захістала і, зваліўшыся на зямлю, Адам забіўся насмерць. Быў жа ён не толькі добрым майстрам, але і прыгожым мужчынам, і яго кахала гаспадыня гэтых зямель. Яна павезла цела Адама ў Італію і там, забальзаміраваўшы, паклала ў дарагую труну, зробленую з рэдкіх парод дрэў. Труну даставілі ў касцёл, дзе Адам праляжаў да першай сусветнай вайны, калі ў адной з баявых аперацый быў забіты нямецкі афіцэр з вышэйшых чыноў. Немцы Адама досталі, на яго месца паклалі свайго нябожчыка і адправілі ў Германію. У новай труне Адам праляжаў да 50-х гадоў.

У 1946 годзе касцёл Святой Тройцы зачынілі. Паехаў ксёндз. Жыхары вёскі некаторы час прыглядалі за храмам, прыбіралі, але прыехаў з сельсавета начальнік і "самадзейнасць" забараніў. А найбольш актыўных вернікаў пакаралі, пратрымаўшы некалькі дзён у міліцыі.

Неяк пазней са студэнтамі трапіў у тыя мясціны і вырашыў паглядзець, як там Адам? Абшукаўшы ўсе закуткі ў разбураным будынку і яго прыбудовах, мы не знайшлі майстра. Выбраўшыся з развалін, убачылі ля бліжэйшага дома пажылых жанчын. Падышоўшы да іх, спыталіся пра лёс Адама. Яны адказалі нам так: "Надаеў ён нам. Як толькі ноч, дык хлопцы дастаюць яго і суюць у вокны. Ну мы ўзялі і закапалі. Навошта над нябожчыкам здзекавацца. І ўсё тут".

У 1994 годзе, падарожнічаючы з групай нямецкіх турыстаў па гэтаму маршруту, мы спыніліся ля касцёла, і я не паверыў сваім вачам. Замест развалін перад намі стаяў рэстаўрыраваны будынак. Рамонт унутры яшчэ працягваўся, але службу ўжо праводзілі. Ажыццявілася мара мясцовых жыхароў. Менавіта пра гэта апошні раз мы з імі доўга гутарылі. Касцёл для тых бабулек шмат значыць. Тут іх хрысцілі, тут яны вянчаліся і хрысцілі сваіх дзяцей. Многія пасля вайны жылі ў касцёле, пакуль не адбудавалі згарэлыя ад нямецкіх бомбаў хаты. Адна жанчына расказала, як яе з нагой, перабітай асколкам бомбы, па нядзелях выносілі з паўразбуранага дома на вуліцу слухаць службу. І яна ўпэўнена, што гэта дапамагло загаіць без лякарстваў рану.

* * *

Наступны цікавы аб'ект на нашым шляху — Альшэва. З 1848 па 1986 гады тут размяшчалася адна з нямногіх конна-племянных станцый, дзе разводзілі беларускіх запражных коней. У стайнях можна было паглядзець славутых прыгажуноў, медалістаў. А з якой любоўю пра сваіх гадаванцаў расказвалі конюхі! Цяпер тут кароўнік. Не ведаю, з якіх меркаванняў гэта было зроблена, але, калі ўспамінаю захапленне дзяцей, ды і дарослых гараджан, якія ўпершыню ўбачылі пародзістых коней, становіцца сумна. Калі так будзе працягвацца далей, то хутка мы будзем вымушаны занесці беларускага запражнога каня ў Чырвоную кнігу.



Насупраць стайні — былая сядзіба пана Хамінскага з паркам з рэдкіх парод дрэў на крутым беразе ракі Страча. Ад сядзібы ўжо нічога не засталося, акрамя развалін дома, парк зарос, і старых дрэў з кожным годам становіцца ўсё менш.

**Юрый АКУДОВІЧ.**

**Працяг. Пачатак у №№ 29-32.**

*ДА 185-й ГАДАВІНЫ НАШЭСЦЯ НАПАЛЕОНА*

# РАМАНТЫЧНАЯ ВАЙНА 1812 ГОДА

**Гісторыя сусветнай цывілізацыі багатая на падзеі, якіх нішто не ў стане адабраць з памяці народа. Падзеі гэтыя заўсёды неардынарныя. Яны звязаны ў першую чаргу альбо з масавымі рухамі — рэвалюцыямі і паўстаннямі, магутнымі і глыбокімі ўнутранымі каталізатарамі, што ўзрушылі на доўгі час грамадства і дзяржаву, альбо з катаклізмамі звонку — войнамі, што ўзрушылі ўстоі як праціcтаячых адна адной дзвюх краін, так і цэлага комплексу дзяржаўных сістэм. Пералічыць усе гэтыя войны немагчыма.**

**Усе стагоддзі імі насычаны, адны — больш, другія — менш. На змену лакальным войнам прыходзяць войны рэгіянальныя і наадварот, у далейшым узнікаюць сусветныя войны. І зноў войны лакальныя і рэгіянальныя і г. д. Без вайны, на жаль, чалавецтва яшчэ не навучылася жыць.**

**Але войны бываюць розныя, справядлівыя і несправядлівыя і адпаведна захопніцкія і нацыянальна-вызваленчыя. Уварванне войск на чужую тэрыторыю нічым не можа быць апраўдана. І народ бярэцца за зброю, калі вораг замахваецца на яго свяшчэнную зямлю. Так было і так будзе, пакуль існуе чалавецтва.**

**Але адны войны хутчэй сціраюцца з памяці сучаснікаў і нашчадкаў, другія надоўга ў ёй застаюцца. І колькі не пройдзе гадоў, гістарычная памяць зноў і зноў будзе вяртаць да часоў незабыўнай славы, асабліва калі гэта слава народная.**

**Для Расіі такой вайной стала першая Айчынная вайна 1812 года. Ужо 185 гадоў з часу гэтай знамянальнай даты, а і мастацкая літаратура, і гістарычныя творы, і публікацыі, і творы мастацтва зноў і зноў вяртаюць нас да гэтай падзеі.**

## І. НАШЭСЦЕ

Вялікая армія Напалеона ў 1812 годзе прайшла Германію і неўзабаве ўвайшла ў Польшчу. "Вызваленне" Польшчы было адным з лозунгаў, але на самай справе гэта было толькі адной з абстановачных дэталяў вайны, якая толькі пачыналася. Польшча перш за ўсё павінна была быць рэзервам для папаўнення рэкрутамі вялікай арміі.

Прыбыўшы ў памешчыцкі дом у Вількавышках, Напалеон напісаў 10 чэрвеня адозву да арміі: "Салдаты, другая польская вайна пачата. Першая скончылася ў Фрыдландзе і Тыльзіце. У Тыльзіце Расія паклялася ў вечным саюзе з Францыяй і клялася весці вайну з Англіяй. Яна цяпер парушае сваю клятву. Яна не хоча даць нікому тлумачэння сваіх дзіўных паводзін, пакуль французскія арлы не пойдуць назад цераз Рэйн, пакідаючы на яе волю нашых саюзнікаў. Лёс цягне за сабой Расію, яе наканаванасць павінна здзейсніцца. Яна нас ставіць перад выбарам: ганьба ці вайна. Выбар не выклікае сумненняў. Такім чынам, пойдзем наперад, пяройдзем цераз Нёман, унясем вайну на яе тэрыторыю..."

Гэтая адозва і была аб'яўленнем вайны Расіі: ніякага іншага аб'яўлення вайны Напалеон не зрабіў. 11 чэрвеня Напалеон і са світай і адзін ездзіў па беразе Нёмана. Будаваліся тры масты, пабудова трэцяга скончылася а 12-й гадзіне ночы з 11 на 12 чэрвеня. У ноч на 12 чэрвеня Напалеон загадаў пачаць пераправу. "А першай гадзіне апоўначы за ракой Нёман можна было чуць пастаянны і незвычайны шум і рух. Увесь горад чуў гэта, і несумненна ўсе здагадваліся, што такі рух рабіў марш вялікага войска; быў чуцен бой барабанаў і некалькі ружэйных выстралаў вышэй Коўна... Зусім нечакана а шостай гадзіне раніцы авангард войск французскіх і польскіх увайшоў у горад і выстраіўся на плацу". Так даведалася Коўна аб уварванні Напалеона. Усю ноч з 12 на 13 чэрвеня, увесь дзень і ноч 13, 14, 15 чэрвеня чатырма няспыннымі патокамі напалеонаўская армія па трох мастах і чацвёртаму старому — каля Коўна, Пліта, Мерэча, Юрбурга полк за палком, батарэя за батарэяй, няспынным патокам пераходзіла цераз Нёман і выстройвалася на процілеглым беразе.

"Мой друг, я перайшоў цераз Нёман 24-га чысла ў дзве гадзіны раніцы. Вечарам я перайшоў цераз Вілію. Я авалодаў горадам Коўна. Ніякай сур'ёзнай справы не завязалася. Маё здароўе добрае, але спякота стаіць жудасная", — такая была першая вестка аб пачатку вялікай вайны, якую Напалеон паслаў з Коўна імператрыцы 25 чэрвеня 1812 года.

У Вільні, позна вечарам 12 чэрвеня, Аляксандр І даведаўся на бале, дадзеным у яго гонар, аб пераходзе Напалеона цераз рускую граніцу. Аляксандр пасля некаторага вагання вырашыў ніякага ўрачыстага маніфеста аб вайне не публікаваць. Быў толькі адданы загад па войсках 13 чэрвеня 1812 года, які абвяшчаў аб уварванні Напалеона і пачатку вайны.

Разведка даносіла, што Напалеон ад Нёмана рушыў прамой дарогай на Вільню, што наперадзе ідзе Мюрат з кавалерыяй. Вырашана было неадкладна выходзіць з Вільні ва "ўмацаваны лагер" у Дрысе. Клаўзевіц, які знаходзіўся ў невялікіх чынах пры арміі Барклая, агледзеўшы гэты лагер якраз перад уступленнем туды 1-й рускай арміі, зрабіў наступны вывад: "Калі б рускія самі добраахвотна не пакінулі гэтай пазіцыі, то яны аказаліся б атакаванымі з тылу, і, усё роўна, было б іх 70 ці 120 тысяч чалавек, яны былі б загнаны ў паўкруг акопаў і вымушаны былі б капітуляваць".

У момант уварвання Напалеона рускія войскі былі раскіданы на прасторы ў 800 вёрстаў. Некаторыя запэўніваюць, што Барклай дэ Толі спачатку думаў аб змаганні, але тут жа давялося ад гэтай думкі адмовіцца: колькасць Вялікай Арміі, што ўступіла ў Расію, аказалася значна большай, чым меркавалі ў рускім штабе і пры двары.

У Баграціёна было ў канцы чэрвеня 1812 года шэсць дывізій, а Напалеон накіраваў супраць яго амаль удвая больш — 11 дывізій. У Барклая было 12 дывізій, а Напалеон рушыў супраць яго каля 17.

Ёсць да гэтага часу звыш дзесяці розных выказванняў аб колькасці Вялікай Арміі, што перайшла цераз Нёман. Напалеон гаварыў аб 100 тысячах чалавек, барон Фэн, яго асабісты сакратар, — пра 300 тысяч, Сегюр — пра 375 тысяч, Фезанзак — пра 500 тысяч. Большасць вагаецца паміж 400 і 470 тысячамі.

Першапачаткова план, па сведчанню генерала графа Толя, зводзіўся да таго, каб дзейнічаць наступальна, і толькі "неймавернае перавышэнне сіл Напалеона, што сканцэнтраваліся на Вісле паміж Кенігсбергам і Варшавай, і некаторыя палітычныя абставіны" прымусілі перамяніць план, "трэба было весці вайну абарончую", таму што з 360—400 тысяч, якія былі ў той момант у Расіі, непасрэдна Напалеону проціпаставіць можна было ўсяго толькі, ужо лічачы з арміяй Тармасава, 220 тысяч чалавек. Ды і то гэтая лічба была толькі на паперы.

Напалеон меркаваў, пераходзячы Нёман, што дзеючая непасрэдна супраць яго руская армія роўная прыблізна 200 тысячам чалавек. Але ён памыляўся. На самай справе руская камандаванне ў дзень нападу мела: у арміі Барклая (1-й арміі) каля 118 тысяч чалавек; у арміі Баграціёна (2-й арміі) 35 тысяч чалавек, увогуле 153 тысячы. Пры адступленні да Дрысы, да Бабруйска, да Магілёва, да Смаленска ў гэтыя арміі ўліваліся гарнізоны і папаўненні, і першапачатковая колькасць узрасла б да 181 тысячы чалавек, калі б не давялося выдзеліць для аховы пецярбургскіх шляхоў армію (генерала Вітгенштэйна) у 25 тысяч чалавек і калі б не страты ў баях (7 тысяч). За вылікам гэтых дзвюх лічбаў атрымліваецца 140 тысяч чалавек, якія павінны былі б апынуцца ў Смаленску 20 ліпеня, — калі нарэшце Барклай і Баграціён злучыліся. Але на самай справе аказалася ў Смаленску ўсяго толькі 113 тысяч чалавек, г. зн. на 36 800 чалавек менш, чым можна было чакаць.

...На працягу дзесяці гарачых і пакутлівых летніх дзён Барклай ішоў ад Дрысы праз Полацк да Віцебска, паслядоўна атрымліваючы данясенні ад лазутчыкаў і ад разведкі, што Напалеон з галоўнымі сіламі таксама ідзе на Віцебск. Калі б пры Барклаі была ўся армія, якую ён меў на Дрысе, то і ў такім выпадку можна было апасацца, што супраць 100 тысяч рускіх Напалеон прывядзе ў Віцебск ад 150 да 200 тысяч чалавек.

Знаходзячыся ў Вільні, Напалеон павінен быў адначасова абдумаць і правесці дзве аперацыі: супраць Баграціёна, які адступаў з 2-й арміяй (45 тысяч чалавек) да Нясвіжа, і супраць Барклая, які ўжо 14 чэрвеня выйшаў з Вільні са сваёй 1-й арміяй (каля 100 тысяч чалавек) у накірунку да Дрыскага ўмацаванага лагера на Дзвіне.

Найбольш цяжкім было становішча Баграціёна, і Напалеон адразу ж рушыў супраць яго вялікія сілы. Па яго загаду ў пагоню за Баграціёнам выйшаў з Вільні маршал Даву з 50 тысячамі чалавек. Даву ішоў цераз Ашмяны на Мінск, абыходзячы Баграціёна і адразаючы яму дарогу да адступлення. Свайму брату, вестфальскаму каралю Жэрому Банапарту, у якога было каля 16 тысяч чалавек, Напалеон загадаў ісці на Наваградак, папярэджваючы рух туды Баграціёна, які 17 чэрвеня яшчэ быў каля Нёмана. Баграціёну пагражала капітуляцыя ці поўнае знішчэнне. І усё-такі Баграціён пайшоў. Французскія камандзіры звальвалі віну адзін на аднаго. Адбіваючыся са звычайным сваім майстэрствам і ўпартасцю ад насядаўшага на яго Даву, Баграціён рушыў на поўдзень і тут мог бы загінуць, калі б Жэром Банапарт прыйшоў своечасова і перарэзаў яму дарогу. Але Баграціёну ўдалося пакінуць гэта месца раней, чым самкнуліся французскія клешчы.

22 чэрвеня Напалеон дае дырэктыву: "Трэба альбо прымусіць Баграціёна ісці ў Магілёў, альбо адкінуць яго ў пінскія балоты. І ў тым і ў другім выпадку французскія часці змогуць увайсці ў Віцебск раней за Баграціёна, і Баграціён акажацца адрэзаным". 23 чэрвеня надзеі ажывіліся: прыбылі весткі. "Баграціён у Наваградку, праследуемы з усіх бакоў", — пісаў імператар віцэ-каралю Гагенію Багарне з Вільні. Але гэта было памылкова. Баграціён зноў пайшоў.

28 чэрвеня Баграціён прыйшоў у Слуцк, а з Слуцка пайшоў, усё паскараючы тэмп адступлення, да Бабруйска, куды прыбыў 6 ліпеня. Увесь час яму пагражала страшная небяспека: маршал Даву заняў паслядоўна Свіслач, Мінск, Оршу і яўна ставіў мэту адрэзаць Баграціёну шлях да далейшага адступлення.

Даву прабыў у Мінску чатыры дні. Баграціён майстэрскім манеўрам адхіліўся моцна на поўдзень, дасягнуў Бярэзіны ля горада Бабруйска, перайшоў у Бабруйску цераз Бярэзіну і пайшоў да Дняпра. Днепр ён хацеў перайсці каля Магілёва, але, даведаўшыся па дарозе, што Магілёў ужо заняты войскамі Даву, якія выйшлі з Мінска, адышоў з боем, знішчыўшы пры гэтым, па прызнанню Сегюра, цэлы полк лёгкай кавалерыі французаў.

11 ліпеня Раеўскі з адным корпусам на працягу дзесяці гадзін вытрымаў пры Дашкаўцы, затым паміж Дашкаўкай, Салтанаўкай і Навасёлавым цяжкі бой з насядаўшымі на яго дывізіямі корпуса Даву і Марцье. Такім чынам, корпус Раеўскага на працягу ўсяго дня ўпарта стрымліваў ля мястэчка Дашкаўкі націск маршала Даву, даючы час усёй арміі Баграціёна ісці да пераправы цераз Днепр. 12 чэрвеня раніцай Баграціён аддаў загад Раеўскаму ісці да Новага Быхава і далей па мосту цераз Днепр.

Амаль адначасова з весткай аб пераходзе Баграціёна на левы бераг Дняпра ў Вільню да Напалеона прыйшла другая вестка: аказалася, што 6 ліпеня Барклай з усімі войскамі раптоўна пакінуў умацаваны лагер у Дрысе і рушыў да Віцебска. Каб затрымаць французаў у іх руху на Віцебск, Барклай выслаў насустрач французскаму авангарду 4-ы пяхотны корпус пад начальствам графа Остэрмана-Талстога. Остэрман пайшоў па дарозе з Віцебска да Бешанковічаў, але, ледзь прайшоўшы 12 вёрстаў ад Віцебска, ён наткнуўся на галаўную часць французскай кавалерыі. Рускія гусары разбілі французаў, і, захапіўшыся праследаваннем, наляцелі на конную брыгаду французаў, якая перабіла многіх з іх і адкінула астатніх. Гэты бой адбыўся каля мястэчка Астроўна, за 26 вёрст ад Віцебска. На дапамогу рускім гусарам падаспелі галоўныя сілы Остэрмана-Талстога.

13 ліпеня французы рушылі на Віцебск. Ноч з 13 на 14 Напалеон правёў у палатцы паміж Бешанковічамі і Віцебскам. Страшная гарачыня працягвалася. "Мы задыхаемся", — пісаў Напалеон імператрыцы.

Барклай адступаў да Віцебска. Генерал Дохтураў з ар'ергардам адбіваўся ад насядаўшага на яго Мюрата. Рускія ішлі ў Астроўна. Тут, як далажылі Напалеону, не даходзячы некалькіх кіламетраў да мястэчка, 13 ліпеня 8-мы гусарскі полк французскай кавалерыі ўбачыў ідучых наперадзе ў тым жа напрамку нейкіх салдат. Гэта і быў рускі ар'ергард, якому загадана было па меры магчымасці затрымліваць непрыяцеля. Бітва працягвалася да самага Астроўна, куды з боем і падышлі і рускія і французы.

Напалеон цвёрда ведаў, што з чыста ваеннага пункту гледжання неабходна, не затрымліваючыся ў Віцебску, кінуцца за Барклаем і за Баграціёнам, які ішоў да Смаленска, і не даць ім злучыцца ў Смаленску і што засталося ўсяго 5—6 дзён, калі гэтага магчыма дасягнуць. "Але гарачыня такая моцная і армія такая вялікая, што імператар разважыў: трэба даць ёй некалькі дзён адпачынку".

Калі Напалеон даведаўся, што руская армія тайна пакінула Дрыскі лагер, ён загадаў вечарам таго ж дня правесці нараду. Скончыў ён яе ўрачыстай заявай, што мае намер завяршыць у Віцебску кампанію 1812 года, умацавацца на сваіх пазіцыях, папоўніць армію і чакаць мірных перагавораў з Аляксандрам, уладкаваўшыся трывала, спакойна, надоўга ў заваяванай вялікай краіне. Для Віцебска, як і для ўсёй Беларусі, надышоў бядотны час.

"На самай справе, — пытаўся сведка, які перажыў гэтыя дні, — што трэба было адчуць пры ўваходзе Напалеона ў Віцебск?.. Палаючыя вакол паселішчы і прадмесці горада, вуліцы, пакрытыя раненымі і мёртвымі, палі, умошчаныя чалавечай крывёю і засеяныя мноствам трупаў, грабеж, гвалт і забойствы безабаронных жыхароў — такая карціна, што перавышала ўсякае апісанне. У самай глушы лясоў нельга было знайсці бяспечнага прыстанку: каты лічылі за асабістае задавальненне адшукваць тых, хто хаваўся, з якімі абыходзіліся самым бесчалавечным чынам"...

Між тым насельніцтва аказвала падтрымку новаму рэжыму і супрацíўленне рускай арміі. Вось толькі некаторыя факты: Шавельскія памешчыкі ўзбройваліся і абаранялі свае землі ад рускіх; жыхары Пінскага павета не пастаўлялі коней і валоў для вывазу харчавання і артылерыі, затым паўсталі і перашкаджалі эвакуіраваць склады; атрад пад камандаваннем Твардоўскага напаў на абозы арміі Тармасава і ўзяў палонных. Фабіян Горніч захапіў абоз палка рускай арміі, абмундзіраваў і ўзброіў свой атрад, а генерал Мірбах, удзельнік паўстання 1794 года, сабраў на працягу некалькіх дзён атрад у 2 000 чалавек, з якіх сфарміраваўся егерскі полк і 3 эскадроны кавалерыі. У горадзе Крожы сяляне, мабілізаваныя для вывазу хлеба, выпраглі коней і пайшлі ў лес; абывацель Мазырскага павета Мінскай губерні Богуш схаваў у лесе транспарт з 12 валоў, што прызначаўся для рускай арміі, і перадаў затым французам; Пётр Былінскі, распарадчык маёнтка Віктарышкі (на дарозе Вільня — Ашмяны), узброіў сялян і, акружыўшы групу рускіх марадзёраў, што рабавалі сядзібы, узяў у палон 55 чалавек і адканваіраваў іх у Вільню.

Мясцовыя сяляне шчыра чакалі Напалеона як вызваліцеля ад прыгоннай залежнасці — перад імі быў прыклад герцагства Варшаўскага — і сустракалі французаў нават з большым энтузіязмам, чым шляхта. Буйная знаць таксама праяўляла максімум актыўнасці, так жа энергічна была настроена моладзь. Некаторая ж частка дробнага дваранства, што страціла даходную службу пры Аляксандры, паставілася да французаў негатыўна. У поглядах духавенства не было адзінства. Калі каталіцкія і асабліва уніяцкія свяшчэннікі падтрымлівалі Напалеона, то праваслаўны клір, якога было больш у Беларусі, застаўся ў значнай частцы на баку рускага цара.

Вернемся да знаходжання Напалеона ў Віцебску. Імператар жыў у Віцебску дзень, другі, трэці, чацвёрты. Світа, гвардыя бачылі, што ён нечым незадаволены. І вось, не склікаючы новага савета, ён сам стаў загаворваць аб сваім рашэнні са світай. Генералы спачатку думалі, што Напалеон хоча, каб яго пераканалі. Але яны памыліліся. Новае рашэнне ўжо было прынята: яно было дыяметральна процілеглым таму, якое ён урачыста аб'явіў сваім маршалам 16 ліпеня.

У наступныя дні імператар яшчэ не даваў ні канчатковага загаду аб выступленні сваёй арміі з Віцебска, ні загаду аб уладкаванні на доўгае знаходжанне там. Да таго ж вельмі ўжо непрыветнай і галоднай аказалася гэтая віцебская стаянка: чым больш часцей Вялікай Арміі, што далёка апярэдзіла свой абоз, сыходзілася вакол маленькага разрабаванага горада, тым больш галадна станавілася жыць салдатам, тым больш падала штодзённа коней у кавалерыі. У многіх часцях елі амаль толькі адну аўсяную кашу. Лютавала дызентэрыя.

28 ліпеня ўсё зрушылася з мёртвай кропкі. Напалеону данеслі, што генерал Себасціяні падвергся раптоўнаму нападу з боку рускай кавалерыі і панёс страты. Імператар неадкладна аддаў загад па арміі: выступіць з віцебскіх стаянак і ісці на рускіх.

Напалеон папярэдзіў Даву, што ён разлічвае перайсці цераз Днепр каля Расасны, дзе ён загадаў навесці чатыры масты, і што ён пяройдзе на левы бераг ракі з 200 тысячамі чалавек. Імператар не ўтойваў ад Даву цяжкіх страт сваёй арміі ў баях з рускімі атрадамі, што затрымалі рух.

30 ліпеня першыя часці Вялікай Арміі выйшлі з Віцебска і рушылі на ўсход. Французскія войскі ўвайшлі ў цэнтральную Расію. Смаленск, які столькі раз затрымліваў у мінулыя стагоддзі непрыяцеля, які ішоў на Расію, старажытны горад, што дзвесце год не бачыў пад сваімі сценамі праціўніка, рыхтаваўся да сустрэчы самага грознага ворага, і яго вежам і сценам суджана было рухнуць ад такіх удараў, якіх яны ніколі яшчэ не зведвалі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# НІБЫТА ДОТЫК ЦУДА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ваенны час выконваць якую іншую службу. Узначальвае трупу папулярны ў правінцыі ветэран сцэны нехта сэр Джон. Чалавек вялікага таленту, сапраўдны майстар, мастак. Якраз ён і павінен іграць сёння разам са сваёй збор-дружынай "Караля Ліра" ў дзвесце дваццаць сёмы раз.

І хоць горад дасягальны для варожых бамбардзіроўшчыкаў і рыхтуецца да налёту авіяцыі Герынга, публіка раскупіла білеты. Ці адбудзецца той спектакль пад пагрозай знішчэння самога горада?

Ды і "Кароль Лір" можа сарвацца яшчэ з аднае прычыны — недарэчнага дзівацтва або звычайнай хваробы старога прэм'ера трупы. Сэр Джон здатны выкінуць такую штуку, што ўсе добрыя намеры ягоных калег будуць раптоўна разбіты ўшчэнт.

Ну, а цяпер скажыце, калі ласка, што ў гэтым драматычным сюжэце і такім спецыфічным асяроддзі персанажаў можа быць прывабным і цікавым для сучаснага маладога інжынера-праграміста... для школьнай настаўніцы... для маладога стаматолага? Ды і вайна з бамбёжкамі гарадоў для большасці мінчан нешта далёкае ад нашай паўсядзённасці і знаёмае адно па фільмах ды тэлеперадачах. Між тым глядзельная зала падчас "Касцюмера" смяялася там, дзе сцэнічны канфлікт і сітуацыі сапраўды былі смешныя, і прыціхала ў важкай немаце па ходу сапраўды драматычнага развіцця падзей. І мне зноў думалася пра той чароўны цуд, які ствараецца ў тэатры ў жывой сувязі сцэны і гледача.

Кажуць, што бавіць час у тэатры нам асабліва прыемна яшчэ і таму, што акрамя ўсяго іншага гэта не абавязвае нас ні да якіх учынкаў у адказ на сцэнічную дзею. Дыялог падтрымліваецца без тваёй вымушанай неабходнасці падтрымліваць яго. Табе варта толькі адпаведна настроіцца...

"Толькі настроіцца"? Што, значыць, усё залежыць ад гледача — настройваецца ён альбо не?

Адкажам на такое запытанне максімай, выказанай у свой час кумірам у камедыяграфіі Бамаршэ: "Такі закон мастацтва — тэатр не абуджае ні маральна-духоўнага водгуку, ні цікавасці, калі мы не адчуваем свайго тайнага саўдзелу ў драматычных перыпетыях". Ды зноў жа ўзнікае пытанне. Чаму тэатр уцягвае нас у перыпетыі гэтай драмы — "Касцюмера"? Хіба нам ужо так цікава даведацца, ці пераадолее сэр Джон свае хваробы і капрызы і асіліць свайго дзвесце дваццаць сёмага "Ліра"? І ці можа ўсхваляваць нас пагроза бамбёжкі таго гарадка, дзе ягоная трупа дае спектаклі ажно ў далёкім сорак другім годзе?

Але, і цікавіць, і хвалюе!

Таму так часта на тым паказе "Касцюмера", пра які я гавару, дыханне акцёра, яго слёзы, яго роспач і яго ўспышкі радасці, здавалася, змешваліся з дыханнем, са слязьмі, з роспачным настроем і з пералівамі радасці глядзельнай залы. Задуменназвонкая цішыня ў партэры і бельэтажы, у ложах і на галёрцы была асабліва чутнай у моманты, калі на падмостках нараджаўся адказ на якое-небудзь надзённае пытанне, звернутае аднолькава і да дзеючых на сцэне персанажаў, і да нас у зале.

То і не дзіва!

Я даўно не бачыў такой творчай і сапраўды натхнёнай... зусім нязмушанай заглыбленасці ў вобраз... такой псіхалагічнай злітнасці акцёра з роляй, якая вылучае сэра Джона ў галерэі шматлікіх сцэнічных і экранных герояў Мікалая Яроменкі. Як сапраўдны паладзін Мельпамены сам М. Яроменка і ягоны сэр Джон жыццёва-прафесійна прагнуць поспеху, апладысментаў і ўхвалы — вось тутака, разам і поплеч з гледачамі, у гэтую хвіліну. Натуральнае для акцёраў жаданне. Заўсёдная мара!

Хай у паветры над горадам — і над тэатрам! — ужо гудуць "месершміты", вячэрні змрок разразаюць перакрыжаваныя промні пражэктараў. І адданы сэру Джону касцюмер Норман выйдзе да публікі, каб пастарацца стрымана-ўсхваляваным голасам абвясціць: "Лэдзі і джэнтльмены! Пачынаецца паветраны налёт. Аднак мы ўзнімаем заслону. Хай жа тыя, хто хоча жы... хто хоча збегчы... хоча пакінуць залу, зробяць гэта як мага цішэй... Дзякуй!" А сэр Джон тым часам не сунімаецца ў сваёй грымёрцы і, узняўшы галаву і сціскаючы кулакі, крычыць: "Якісьці Гітлер замінае нам толкам сыграць Шэкспіра!.. Варвары..."

Рэжысура Мікалая Пінігіна вельмі панарамна і выразна раскрывае ў вобразнай форме істотную для тэатра ідэю: судакрананне дзвюх стыхій — жыцця і мастацтва — гэта не свавольная выдумка камедыянтаў, а тая з'ява, што заслугоўвае сур'ёзнага асэнсавання. Сцэнограф Зіновій Марголін і мастак па святлу Сяргей Мартынаў садзейнічаюць рэжысёру ў стварэнні яркага ўражання ў сцэне, калі пад выбухі бомб і выццё сірэн там, на сцэне, дзе ідзе "Кароль Лір", гучаць непераўзыдзенай сілы думкі і пачуцці вялікага Шэкспіра.

Адну асаблівасць спектакля мушу падкрэсліць, бо далёка не заўсёды ў тэатры такое адбываецца. У п'есе англійскага драматурга Р. Харвуда, бадай, больш увагі аддадзена якраз касцюмеру Норману, вобразу, які ў пэўнай ступені аўтабіяграфічны. Тэатр, паводле задумы М. Пінігіна, акцэнтуе лёс артыста сэра Джона, аддаючы належнае і Норману. Справа ў тым, што кароль Лір у Шэкспіра акрэслівае пэўную тэндэнцыю чалавека наогул адчуваць сябе загнаным жыццёвымі варункамі на край бездані, калі ты зняверваешся і расчароўваешся ў людзях і ў самім сэнсе жыцця. А ў сэра Джона, якім яго паказвае М. Яроменка, ёсць усе падставы для гэтага. І партнёры ў яго горш не прыдумаеш, і выступаць на сцэне трэба пад грымоты і фантасмагорыю бамбёжкі, і хваробы не даюць старому спакою. Здараецца, ён наогул выглядае ледзь не маразматыкам. І ўсё ж гэта ваяўнічая натура, якая не збіраецца выкінуць белы сцяг капітуляцыі нават перад няўмольным лёсам.

Паказальна ў гэтым сэнсе прасочванне рэжысурай пераходаў у аблічча і постаці сэра Джона ад існасці і самасці гэтага правінцыяльнага камедыянта да... Дон Кіхота... да асобы, якая не толькі пераапранаецца ў караля, але і робіцца нібы ім — каралём Лірам. Важныя ідэйна-маральныя імпульсы зыходзяць ад іх — і ад Рыцара Няўцешнага Аблічча, і ад пакутніка ў каралеўскай мантыі Ліра... І... Так, і ад Мікалая Яроменкі. Бо калі ягоны герой грамавержцам узнімае голас пратэсту супроць зла тут, на зямлі, і таго зла, што тыраніць душу сцэнічнага героя — Ліра, у адно зліваецца магутнае пачуццё. Так і карціць сказаць: сэр Джон — донкіхоцкі правінцыял — шэкспіраўскі Лір — і сучасны артыст М. Яроменка... гэтая трыяда адчувае "глыток Вечнасці".

Мабыць, не толькі я задумаўся на "Касцюмеры" вось яшчэ аб чым. Дваццатае стагоддзе засведчыла, што трагічныя катаклізмы ў свеце — вынік дагматызму і нецярпімасці людзей. Наўрад ці якое іншае мастацтва гаворыць пра гэта з такой сілай, як тэатральнае. На нашай памяці колькі сюжэтаў, якія таксама супярэчліва і дыялектычна заканамерна звязваюць жывую рэчаіснасць з мастацкімі адкрыццямі і ўвасабленнямі сцэнічных канфліктаў і вобразаў. Адзін такі сюжэт мушу пераказаць тут, пад уражаннем перажытага ў Купалаўскім на "Касцюмеры".

Прыгадаўся класічны спектакль купалаўцаў "Апошнія" па п'есе М. Горкага. У свой час ён быў прызнаны лепшым на абшарах былога СССР тэатральным увасабленнем складанай п'есы, персанажы якой — гэта асяроддзе важнага жандарскага чына і яго сям'і. Галоўны герой Іван Каламійцаў у выкананні У. Уладамірскага паўставаў як свядомы і ваяўнічы служка пануючай улады. Выкарчоўнік вальнадумства. Пільны ахавальнік царска-паліцэйскага рэжыму. І дэспат у сваёй сям'і. Да таго ж яшчэ крыўляка, юрлівец, падманшчык. Ён і гаворыць засёды пафасна, урачыста, высакамоўна, каб прыхаваць свае гнюсныя ўчынкі. "Які цудоўны комік гіне ў ім!" — справядліва заўважае ягоны сын. Злавесны комік. Комік з акрываўленымі рукамі...

Спектакль тады зрабіў фурор. Такога глыбокага пранікнення ў няўхільнае выраджэнне чалавечай асобы на жандарскай ніве дзейнасці... такой бліскучай акцёрскай манеры "жыцця ў вобразе"... даўно не было ў тагачасным БДТ-1. І вось вам парадокс: прэм'ерныя паказы "Апошніх" у сакавіку трыццаць сёмага супадалі з пасяджэннямі пленума ЦК КП(б) Беларусі. Пленум абраў першым сакратаром цэнтральнага камітэта В. Шаранговіча. Неўзабаве яго, чалавека, які тады рашуча выкрываў сваіх папярэднікаў, што нібыта былі зламыснымі нацдэмамі, наймітамі варожых разведак і ворагамі народа, расстраляюць. Расстраляюць паводле прысуду надзвычайнага суда, якім кіраваў не менш знакаміты цяпер пракурор-аглабельшчык А. Вышынскі, а дырыжыраваў з-за куліс залы ў Доме Саветаў у Маскве сам І. Сталін. А на прэм'еру "Апошніх" В. Шаранговіч і важныя партыйныя функцыянеры хадзілі пасля пасяджэнняў, на якіх дружным хорам абвяшчалі анафему А. Чарвякову, М. Галадзеду, М. Гікалу і іхным "памагатым" і тым, як ім здавалася, завяршалі чыстку партыйна-дзяржаўнага апарату ад так званых "варожых элементаў".

Выконваўся спектакль "Апошнія" і ў жніўні трыццаць, сумна вядома, сёмага года, калі ў Мінск прыехаў пасланец Сталіна Г. Малянкоў, пра якога цяпер вядома, што ён тады сваёй уладай знішчыў амаль усё тагачаснае партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва Беларусі. На адказныя пасады ў наркаматы і камітэты партыі прызначаліся людзі, якія змянялі беспадстаўна арыштаваных, асуджаных і ў большасці расстраляных з кляймом "вораг народа" ў Курапатах і падобных да іх урочышчах.

Не ведаю, ці маглі тады хоць як-небудзь супастаўляць тое, што ў рэчаіснасці адбывалася ў краіне, з паказаным на сцэне ў "Апошніх" тагачасныя гледачы. Помню, як вядомыя акцёры, што стварылі ў спектаклі незабыўныя вобразы, на маё пытанне, ці здагадвалася рэжысура і артысты, якая атрымоўвалася і сапраўды трагедыйная пераклічка... унутраная сувязь... судакрананне дзвюх стыхій — жывой рэальнасці з мастацтвам, — спалохана (хаця тое гаварылася мною недзе на пачатку 60-х гадоў пад уражаннем XX з'езда КПСС) і катэгарычна адмаўляліся прызнаць нават намёк на такую пераклічку. Прынамсі, свядома тэатр тае пераклічкі не прадугледжваў і не рабіў ні на рэпетыцыях, ні ў гатовым спектаклі.

На сцэне ж тады падзеі і страсці ў доме царскага сатрапа Каламійцава самі па сабе перагукаліся з разгулам тэрору 37-га года. Напрыклад, слынная Ірына Ждановіч у ролі дачкі Каламійцава спачатку горача абараняла гонар бацькі, які быў для яе рамантычным героем і добрым чалавекам. Пазней і яна адкрывала вочы на праўду і разам з братам чакала адказу на балючае пытанне дзяцей: "Ці сумленны чалавек наш бацька?"

Дык жа яе бацька — заснавальнік Першага БДТ (пазней названага імем Я. Купалы) — Фларыян Ждановіч быў таксама беспадстаўна арыштаваны і сасланы на Поўнач, а дзядзька, брат Фларыяна, вядомы пад сцэнічным псеўданімам Антук Крыніца, загінуў у ГУЛАГу. І ад яе, ад Ірыны Фларыянаўны, тэатральныя грамадскія актывісты патрабавалі, каб яна вызначыла свае адносіны да бацькі і, калі згодная з тым, што ён "варожы элемент", адраклася б ад яго. Закулісныя калізіі перапляталіся з тым, што ім, артыстам, наканавана было ўвасабляць і асэнсоўваць у калізіях спектакля "Апошнія".

Гледачам жа з ліку высокіх партыйных функцыянераў даводзілася рабіць спакойна-прыстойны выгляд. Быццам ні сам жандар Каламійцаў, ні ягоныя службовыя "подзвігі" не мелі нічога агульнага з норавамі і звычкамі цяперашніх каламійцавых. А цяперашнім пастановай таго ж ЦК ВКП(б) следчым органам рэкамендавалася дабываць у арыштаваных прызнанне ў варожай дзейнасці шляхам насілля пры допытах. Праўда, ахоўная служба ў любой дзяржаве неабходная, ёй належыць пільна аберагаць краіну ад пагроз і падкопаў з боку знешніх і ўнутраных ворагаў, праціўнікаў існуючага ладу. Ад службоўца вымагаецца падазронасць, пільная недаверлівасць, гатоўнасць і ўменне высочваць, падслухоўваць, здабываць патрэбныя звесткі любымі сродкамі, не грэбаваць і "бруднай работай" у камерах і цокальных сутарэннях. Маральныя прынцыпы? Што ж, тая служба часам вымушае і адступаць ад іх. Дзеля высакароднай мэты, вядома. Нібы існуе такая мэта, што можа апраўдаць здзекі следчага-мучыцеля над арыштаваным падазроным...

Вось драматычнае перапляценне жыцця і сцэны, якім пазначаны ў нашай гісторыі 1937 год. Каб такое перакласці на сцэнічную мову, спатрэбілася б пяро Шэкспіравай моцы!

Можа хто скажа, нібы мае сёлетнія ўражанні ад травеньскага "Касцюмера" ў купалаўцаў завялі мяне надта далёка ад таго, што перажываюць персанажы спектакля! Не, тэма "маленькага чалавека" — маленькага на фоне глабальных катастроф і побач з выдатнай і таленавітай асобай гучыць тут вельмі чутна. Гэты Норман... памочнік... лакей... слуга... сябрук-таварыш... дарадчык сэра Джона... Ці не прызначана яму доля пясчынкі, хоць ён служыць праз свайго суверэна мастацтву?

Віктар Манаеў у вобразе Нормана стварае яшчэ адзін партрэт чалавека на ўзбоччы таго вялікага шляху, які яму мроіцца, аб якім ён марыў у юнацтве, побач з якім вымушаны марнаваць гады — сезон за сезонам. Ці не таму і гатовы ён зрабіць для сэра Джона тое, што трэба, сказаць яму тое, чаго ягамосць чакае! У таго ў галаве блытаніна. Нават даведаўшыся, што сёння сабралася поўная зала гледачоў, ён зусім сур'ёзна пытаецца, а які спектакль будзе паказвацца, і потым рашуча абвяшчае, быццам "Ліра" не выцягне, бо не чуе ні рук ні ног. Трэба бачыць, як у В. Манаева ўспыхвае дзіўна драпежная ўсмешка і ягоны Норман пачынае дзяўбці ў Джонаву галаву: "На Рыначным пляцы сёння нейкая жанчына пацалавала вам руку і сказала, што вы цудоўна ігралі ў "Братах-карсіканцах"... Сэр Джон дзівіцца, адкуль тое ўведаў гэты касцюмер, і верыць, што такое магло б... пажадана... каб было! Ды сам-жа ўжо на кручок падчапіўся. Спектакль адбудзецца!

Так рэжысура М. Пінігіна нібы пракладвае лёс гэтых персанажаў цераз драматычныя павароты на скрыжаванні трагедыйнага і камічнага. Дыялогі Нормана і сэра Джона балансуюць між анекдатычнымі пасажамі і паэтычным экстазам, між руціннымі закуліснымі перамовамі і нікчэмнымі сваркамі.

Мяне пранялі дрыжыкі, калі Норман В. Манаева распачаў свой плач... свой енк... сваю споведзь над памёрлым сэрам Джонам. Здалося, небарака маленькі чалавек зводзіць парахунак са зрынутым кумірам, які... аказваецца, ніводнага разу не запрасіў нават паабедаць свайго адданага касцюмера... А той — чуеце: "Дзевятнаццаць гадоў запар апранаю гэтага блазна, пестую яго, цацкаюся з ім, мыю яго прапацелыя фуфайкі і порткі, яго заношаныя споднікі..." Цяпер, калі асілак вялікага таленту, адыграўшы насуперак усяму свой дзвесце дваццаць сёмы спектакль "Ліра", адышоў на той свет, гэтаму слузе... ад'ютанту... дзеншчыку... хочацца пакуражыцца... перабраць тыя радзімыя знакі і плямкі, пра якія ведае звычайна толькі касцюмер-лакей, выкрыць тайныя слабасці і прыхільнасці раней шанаванага ім жа, васалам і паслугачом, куміра.

Ды і пасля смерці штосьці высока прыстойнае і велічнае — дух выдатнага мастака — не дазваляе маленькаму чалавеку стаць раздурана няўдзячным. Ягоны лёс судакрануўся з лёсам сапраўды неардынарнай асобы, таленавітай, кінутай у гэтае трагедыйнае спляценне дабра і зла, спляценне, што завецца сучасным светам. І сэр Джон, часам дзіўны і смешны ў сваім донкіхоцтве, паказаў перш-наперш Норману і нам, гледачам, што ў жыцці трэба адважыцца на свой уласны ўчынак дзеля высакароднай мэты. А ў мастацтва, асабліва тэатральнага, іншай мэты і не павінна быць. Ці не праўда? Я гэта зноў адчуў у цішы глядзельнай залы на спектаклі "Касцюмер".

**Барыс БУР'ЯН.**

Алег Сохар пасля заканчэння аддзялення станковага жывапісу Маскоўскай мастацкай акадэміі вярнуўся ў палескую глыбінку — вёску Навасёлкі Петрыкаўскага раёна. Па словах мастака, жыццё ў вёсцы дае новыя і новыя ідэі. Рукамі Алега аздоблены драўлянай разьбой навасёлкаўскія ўстановы, а калі тут пачалі будаўніцтва царквы, Алег Сохар узяўся аказаць дапамогу ў аздабленні яе інтэр'ера.

НА ЗДЫМКАХ: мастак Алег СОХАР; адна з апошніх яго работ.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.





*АРКАДЗЬ МОРКАЎКА — ПАЭТ ТРАГІЧНАГА ЛЁСУ*

# СЛОВА ДАЧКІ

Пачаўся самы жахлівы час у нашым жыцці. Знікла радасць. Не было хаты, не было вопраткі, абутку, ежы. Набліжалася зіма. Нам дапамагалі знаёмыя і сваякі, якія ўратаваліся ад пажару: нехта даў падушку і салдацкую коўдру, нехта ручнік і навалачку, нехта — абутак, нехта мог пакарміць.

Пасля мы пасяліліся ў нейкай пустой кватэры, з інтэрната прыцягнулі жалезныя ложкі, на родных папялішчы падабралі абпаленыя відэльцы, нажы, лыжкі, аднекуль узялі конаўкі, неяк уладкавалі свой побыт. Пачалося жыццё, што складалася з нягодаў і страху.

Па Савецкай вуліцы на захад пад канвоем гналі калоны палонных. Маладыя брудныя твары, зацкаваны, з-пад ілба погляд галодных вачэй, на нагах дзіравыя абмоткі. І частыя кулямётныя чэргі: той, хто падаў, больш не падымаўся.

Рана, як толькі пачынала змяркацца, мы бралі аканіцы на жалезныя балты. У пакоі запальвалі газніцу. На стале высвечваўся цьмяны круг, вакол якога канцэнтравалася жыццё. Куткі патаналі ў цемры. Калі хто-небудзь уставаў з-за стала, па сценах мітусіліся доўгія чорныя цені, што яшчэ больш узмацняла трывогу. Душыла пачуццё бязвыхаднасці і роспачы, сэрца сціскалася ў чаканні выцця сірэн. На начах падалі бомбы, іхні віск раздзіраў мазгі і вушы.

Гаспадаром стаў голад. Прадаваць ці мяняць не было чаго, купляць ежу — няма за што: тата рабіў "поверителем электросчетчиков" з нішчымным заробкам. Пайсці на лепшую працу яму не дазвалялі перакананні. Твар яговы быў спахмурнелым, стомленым, змарнелым ад пастаяннага недаядання, з тужлівым поглядам.

У ацалелай частцы горада было шмат кінутых кватэр. Кучамі ляжала сталовае серабро, стаялі старажытныя сервізы і музейная мэбля, веселі дываны, габелены, футра. Тата не дазваляў дакранацца да чужых рэчаў: голад міне, ганьба застанецца. І так было ўсе гады акупацыі.

Вайна вярнула тату да актыўнай творчасці. Пісаў ён многа. Пісаў па начах, святла не запальваў, пісаў алоўкам на шматках паперы, на нейкіх канцылярскіх бланках, якія клаў пад сваю падушку разам з алоўкам. Па начах у цемры шамацела папера — тата пісаў свае вершы. Пісаў пра тое, што перажыў, перадумаў, адчуў.

Гэтыя бланкі з няроўнымі радкамі дагэтуль захоўваюцца ў мяне.

Нягледзячы на голад, холад, бамбёжкі, аблавы, пагрозу фізічнага знішчэння, жыццё душы не перарывалася. Дзякуючы бацьку, я пазнаёмілася з творчасцю І. Севяраніна, М. Валошына, А. Ахматавай, З. Гіпіус, А. Белага і іншых. Тата вучыў мяне разумець паэзію Ясеніна, Гётэ і Гейнэ, творчасць Верлена і Верхарна. Не любіў, калі я чытала Эдгара По. Былі Блок і Брусаў, Фет і Майкаў і многа-многа іншых. У цяжкія гады ён вучыў шанаваць і разумець дасягненні агульначалавечай культуры.

У змроку акупацыі мігцела надзеяй слова "вызваленне". Калі яно прыйшло — вызваленне — страх жыцця стаўся больш густым і чорным. Пачаўся зласвецны кашмар: абвінавачванні ў здрадзе. І допыты. Калі дапытвалі бацьку і маці, не ведаю: ад мяне гэта хавалі. Ведаю толькі, што аднойчы бацьку ў МДБ паставілі пытанне: "Калі ты быў за савецкую ўладу, то чаму застаўся жывы?" Хай на гэтае пытанне паспрабуюць адказаць філосафы, юрысты, кіраўнікі адпаведных органаў, дзе могуць ставіць падобныя пытанні. Што адказаў бацька — не ведаю.

Мяне выклікалі на допыты ў будні і святы, з вечара да раніцы. Чаго ад мяне хацелі, у чым абвінавачвалі, я тады не разумела, як не разумею і зараз. Па маім глыбокім перакананні, гэтага не разумелі і людзі, якія на працягу гадзін пыталі ў мяне пра тое, пра што я не мела ўяўлення. Мая віна зводзілася да таго, што ў 1941 годзе родны ўрад кінуў мяне, як шчаня, на разарванне ваўкам. А я чамусьці выжыла. І калі на досвітку я бегла дамоў па пустых вуліцах з плошчы Свабоды, мне было лягчэй ад усведамлення, што дома чакае тата і падзеліць разам са мной мой жах і боль, супакоіць мяне. Раніцай ён ішоў на працу з паніклай галавой. Ён вельмі цяжка перажываў гэтыя абвінавачванні.

Давялося майму бацьку стаяць пад наведзеным на яго пісталетам. Гэта здарылася восенню 1944 года. Так сталася, што ягонаму непасрэднаму кіраўніку спатрэбіўся білет на самалёт. Тата не здолеў купіць білета. Тады Ф. выхапіў пісталет і наставіў у бацькавы грудзі. Пра гэты выпадак мы з мамай даведаліся толькі ў 1957 годзе ад бацькавых супрацоўнікаў, калі яны прыйшлі правесці яго ў апошні шлях. Дома тата не сказаў ніводнага слова. Ён не даваў волі эмоцыям, трымаў іх пры сабе. Толькі ў вольныя хвіліны клаўся на канапу, складаў на грудзях рукі, глядзеў у вакно і засяроджана пра нешта думаў. Думкі, відаць, былі цяжкія. Тата быў маральна пакалечаны сустрэчай з усім вядомым паэтам Л. Пасля ён расказваў маме, што Л. не падаў яму рукі. Хай тое застанецца на сумленні Л. Нагадваю мінулае, і сёння, як і шмат гадоў таму, задаюся пытаннем: дык хто ж быў здраднікам? Той, хто верыў у непахіснасць савецкай улады, у магутнасць Чырвонай Арміі і змагаўся ў акупіраванай Беларусі, ці той, хто згубіў веру і панічна збег... Гісторыя адкажа на гэта пытанне, паставіць усё на свае месца. "І аддадзена будзе кожнаму па ўчынках ягоных", — як сказана ў Біблії.

Узрадавала тату сустрэча з цёткай Уладзяй — Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Яны выпадкова сустрэліся на Савецкай вуліцы, недзе недалёка ад Беларускага тэатра. Мама расказвала, як невысокая, сціпла апранутая жанчына кінулася да бацькі з крыкам: "Аркадзька! Аркадзька!" Яны абдымаліся, цётка Уладзя цалавала бацьку і ўсё паўтарала яго імя. Абодва плакалі.

Тата быў чалавекам вельмі сціплым. Ён цураўся самаўпэўненасці, зайздрасці, выхвалення, злосці. Ніколі не расказваў пра тое, што партызаніў падчас вайны з белапалякамі, што яны яго шукалі. Мая цётка ўспамінала, што палякі схапілі іхняга бацьку і білі яго, дапытвалі, дзе дзеўся сын. Дзед свайго сына не выдаў. Праз некалькі год татава сястра прыехала ў Мінск і прасіла, каб ён узяў даведку аб удзеле ў вайне, і тады яна ў сельсавеце атрымае паркаль. Тата адказаў: "Я ваяваў не за даведкі". І не было ў яго даведак пра тое, што ў Айчынную вайну ён рабіў капсулі для мін і ў двары дома па Камсамольскай вуліцы перадаваў іх партызанскаму сувязному, з якім яго пазнаёмілі муж і жонка Лапкоўскія і інжынер Рыжанкоў. Час даведак для яго ніколі не надышоў: у сваіх учынках ён кіраваўся толькі ўнутранымі схільнасцямі, а не мажлівымі льготамі. І не з паніклай галавой мусіў гэты чалавек хадзіць пасля вайны, а з высока ўзнятай, і поціск ягонай рукі быў гонарам, а не ганьбай.

Тата спыняў мяне, калі ў юнацтве (самаўпэўненасць уласцівая гэтаму узросту) я намагалася нечым выхваляцца і парабольшвала свае магчымасці. Ён мне казаў: "Дай Божа і нашаму цяляці ваўка паймаці", "Куранят лічаць восенню". Мяне здзівіла, калі я аднойчы ўпершыню пачула татава "круцячыся, свет пройдзеш, а назад не вернешся". Ён вымушаны быў некалькі разоў паўтарыць гэтую прымаўку. Сёння гэтай жыццёвай мудрасці я вучу сваіх унукаў (не заўсёды паспяхова).

Бацька быў чалавекам добрым, ніколі нікога не крыўдзіў. Яму было ўласцівае талстоўскае ўсёдараванне. Ф. дараваў, як дараваў і Л., як дараваў шматлікія крыўды, якія падрыхтавалі яму лёс.

У сямідзесятыя гады я ўпершыню сустрэлася з Рыгорам Барадуліным. Калі гаворка зайшла пра майго бацьку, паэт сказаў: "Моркаўка! Сціплая Моркавачка, якая ніколі нікога не пакрыўдзіла!" Такім мой бацька быў заўсёды.

Тата любіў сваю сям'ю, даражыў спакоем блізкіх і іншых людзей. Цяжкахворы, ён хаваў ад нас свой боль. Аднойчы яго наведала знаёмая, і калі мама выйшла з пакоя, ён застагнаў. "Табе баліць, Аркадзь?" — "Ты не ўяўляеш, як мне цяжка, толькі не кажы Ксені". А нас не пакідала надзея, што тата будзе жыць, бо ён нічога не гаварыў пра сваё недамаганне. Толькі аднойчы, за некалькі тыдняў да смерці, калі я чарговы раз прыехала з Масквы дамоў, ён сказаў: "Ты прыехала. Калі давядзецца паміраць, будзе весялей".

У яго было сваё глыбіннае жыццё, і мне здавалася, што ён бачыць і разумее тое, што другім недаступна. Мне ён іншы раз казаў: "Я ведаю, пра што ты думаеш". І ніколі не памыляўся.

Тата быў вельмі задаволены, калі пасля вайны ў "ЛіМе" і ў "Полымі" пачалі з'яўляцца некаторыя яго вершы. Упершыню пасля доўгіх гадоў. Ён прынёс "Полымя" і з усмешкай працягнуў мне яго. І — ніякіх каментарыяў...

Ларыса ПРОНІНА.

Заканчэнне.
Пачатак у №№31-32.

Аркадзь МОРКАЎКА

*К. Н.*

Адцвіло каханне ў сэрцы макам,
Адшапталі ў полі каласы.
І струной далёкаю адплакаў,
І струною дзень адгаласіў.

Не самлее сэрца ад уплыву
Сіневатай месячнай начы...
Не спяшайся ў хату так
рупліва —
Пасядзім яшчэ... і памаўчым.

І магчыма ў высахлай пустэчы
Загарыцца хоць адзін агонь...
Пасумуем сэрцам чалавечым,
І надзеі выкінем з яго.

Бо душою чую, што над намі
Ўжо замкнуўся нечаканы круг.
Не пазвоніць далеч нам званамі,
Мой апошні і няшчасны друг!

*1942 г.*

* * *

І пеўні ўжо тройчы крычаць;
Далёкую бачаць зару.
Чаму ж вашы вочы маўчаць,
І падаюць чаркі з рук!

Вы з тых, што распнулі свой край
На зноўку узнятых крыжах!!
Дык рэж жа, музыка, грай,
А не, дык у сэрца — нажа!

*5. II-43 г.*

## ХАЙ АДКАЖА МАЯ ГАЛАВА

Ты, жадаючы пажартаваць,
Пагуляла у дурня ў карты.
Хай адкажа мая галава
За твае несумленныя жарты!

У пацёмках тваёй душы
Адчуваў я: шавеліцца здрада.
Не чакай, а хутчэй патушы
Прагуляную ў дурня радасць!

І хутчэй развяжы залом,
Што жартуючы завязала,
Бо за сэрца ўжо так узяло,
Што й паперы на вершы мала.

*1946 г.*

## *ЗНАХОДКІ АРХЕАЛАГАЎ*








**Побач з будаўніцтвам Благавешчанскай царквы ў Віцебску пачаліся раскопкі. Кіруе імі загадчыца сектара аховы помнікаў і археалогіі гарвыканкома кандыдат гістарычных навук Таццяна Бубенька. Ужо ўдалося знайсці многа цікавых рэчаў з металу, шэраг іншых каштоўнасцей.**

**НА ЗДЫМКАХ: раскопкі каля будуемай Благавешчанскай царквы; кіраўнік раскопак Таццяна БУБЕНЬКА (трэцяя злева) са студэнтамі гісторыка-філалагічнага універсітэта Аленай ХАДАРЭНКА, Інай КЛЮЧНІКАВАЙ і Таццянай КУЗЬМІЧ; вось такія знаходкі выяўлены ў час раскопак.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# САЛОМКА ВЫБРАЛА ЯЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

тычная сувязь. У Наташыным выпадку таксама не зразумець, што першаснае: ці то Наташа выбрала саломапляценне, ці то саломка — Наташу. Як бы там ні было, між імі многа агульнага. Салома на першы погляд здаецца вельмі крохкім і ломкім матэрыялам, а на справе аказваецца, што яе трываласці можна толькі пазайздросціць. Саламяныя дахі надзейна пакрывалі дамы стагоддзямі, сёння можна ўбачыць саламяныя капелюшы, зробленыя яшчэ ў мінулым стагоддзі. А яшчэ — саломка толькі здаецца кволай, а на самай справе яна вельмі моцная, і чым больш рашуча і жорстка з ёю абыходзіцца, тым паслухмяней яна прымае прызначаную ёй майстрам форму.

Давялося вучыцца, хадзіць на курсы да вядомай майстрыхі Веры Салдатавай. Аднак Наташа лічыць, што навучыцца пляценню можна і самастойна. На маю заўвагу, што гэта, відаць, вельмі складана, запярэчыла: галоўнае гэтага хацець і не баяцца спрабаваць, таму што тут, як у жыцці, дзе сустракаюцца людзі, якія вечна хворыя толькі таму, што на самай справе проста баяцца быць здаровымі... Вось так і стала дарэчы старое захапленне, тым больш, што патрэбны матэрыял тут быў бясплатным.

Наташа лічыць, што саломка дапамагла ёй выжыць, таму што прымушала рухацца, працаваць, дзейнічаць нават тады, калі сіл ужо не было зусім... Салому яна сама вырошчвае на сваім дачным участку, і таму яшчэ да пачатку работы любіць залацістыя сцяблінкі гэтак жа, як маці сваё дзіця да яго нараджэння. А потым яна, гарадская жанчына, былая сцюардэса, гэтую салому жне, і сама ж цягае вялікія снапы, за якімі яе амаль не відаць. А калі хто-небудзь усё-такі мімаходзь падумае, што ўдалося-такі ёй, слабай маленькай жанчыне знайсці сабе лёгкі хлеб, паведамляю, што па затраце сіл праца з саломай прыраўноўваецца да працы забойшчыка. Не хочацца шукаць тут знакаў звыш, але напэўна, ёсць людзі, якім у сілу асаблівасцей іх лёсу не дадзена знайсці сабе прамых шляхоў, спакойнага жыцця, лёгкай работы. Наташа з вялікім задавальненнем займалася б саломапляценнем у якасці хобі ў вольны ад асноўнай работы час. Але асноўнай работы ў азрапорце ёй так і не знайшлося, і таму, як гэта часта ў нас бывае, хобі стала работай, а работа, у чарзе на якую яна стаіць ужо некалькі гадоў, марай, скрытай у блакітнай далечыні за ружовымі аблокамі.

І ўсё ж Наташа не засмучаецца, саломку лічыць матэрыялам сонечным і цёплым, з вельмі прыгожай саламянай сумкай уласнага вырабу з задавальненнем выходзіць з дому, і напэўна атрымлівае задавальненне, калі яе спыняюць і просяць прадаць ці памяняцца. Сумачка і сапраўды унікальная. І нават калі Наташа сама паспрабуе зрабіць яшчэ адну дакладна такую ж, у яе атрымаецца толькі падобная, што абумоўлена ўласцівасцямі матэрыялу, непаўторнага, як і ўсё, што робіць прырода. А ўвогуле, з саломы яна можа сплесці ўсё, што толькі можна ўявіць.

Апошні Новы год яе сям'я сустракала каля ёлкі, знізу да верху апранутай у цацкі і гірлянды з саломкі. Ёлка аказалася такой прыгожай, што выкідаць яе доўга не паднімалася рука... Адна бяда — прадаць вырабы з саломкі сёння вельмі і вельмі цяжка, і гэта пры тым, што цэны на свае работы Наташа прызначае сціплыя. І справа не ў тым, што людзям расхацелася ўпрыгожваць сваё жыццё. Проста ў многіх няма на гэта грошай, і спрадвеку беларускія, адзначаныя высокім густам і сапраўдным талентам вырабы, сёння па сродках набыць толькі іншаземцам, што яны, на Наташына шчасце, і робяць. Нашы ж грамадзяне, па яе назіраннях, купляюць вырабы з саломкі толькі, калі едуць за мяжу, у якасці сувеніраў. Так што, глядзіш, паступова перабяруцца нашы саламяныя залацістыя коні на заморскія лугі, а мы, беларусы, каб паглядзець на наша нацыянальнае мастацтва будзем ездзіць за мяжу.

Вось, уласна, і ўся гісторыя. Пра што яна? Пра тое, што, нягледзячы на часы і абставіны, што нібыта змяніліся, чалавек, які трапіў у бяду, па-ранейшаму нікому не патрэбны? Пра тое, што крохкая саломка памагла выжыць і стаць моцнай слабой маленькай жанчыне? Пра тое, як своечасова падсцеленая саломка змякчыла страшны, сакрушальны сілы ўдар лёсу? І пра гэта таксама. А яшчэ — проста пра прыгожую майстрыху Наташу Бандарэнка, якая са звычайных залацістых сцяблінак пляце сапраўдныя творы мастацтва.

**Веранiка ЧАРКАСАВА.**



**Вось гэта грыб!**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

## «У НАС ЁСЦЬ ШМАТ ЦІКАВЫХ АСОБ...»

Рыгор Сафронаў — малады мастак. Каля двух гадоў працуе выкладчыкам у Калінкавіцкай дзіцячай школе мастацтваў. Да гэтага былі пошукі сябе і ў жыцці, і ў творчасці: чарада вучэбных устаноў і месцаў працы, якія дадалі жыццёвага вопыту, і шэраг творчых работ, выстаў. Яго акружала і акружае моладзь, а яго мастацкая майстэрня з'яўляецца неафіцыйным цэнтрам культурнага жыцця горада.

Не адзін год Рыгор Сафронаў і паэт Яўген Бабіч выношвалі ідэю стварэння ў Калінкавічах клуба творчай моладзі, рабілі захады па яе ажыццяўленню, цярпелі няўдачы, але пэўныя зрухі ўсё ж былі. Урэшце, у сакавіку гэтага года пры Калінкавіцкім краязнаўчым музеі пры садзейнічанні гарадскога аддзела культуры і аддзела па справах моладзі быў адкрыты клуб творчай моладзі "Правінцыял".

Касцяк клуба складаюць дзесяць чалавек, але сюды пастаянна прыходзяць творчыя людзі і проста тыя, хто цікавіцца мастацтвам. Маладыя мастакі, музыканты, літаратары аб'ядналіся, каб разам папулярызаваць здабыткі, і не толькі свае. "Нам хочацца, каб людзі адарваліся ад звыклай схемы — работа, дом, тэлевізар. У тым, што ў нашым горадзе, хоць ён і невялікі, ёсць шмат цікавых асоб, — упэўнены", — кажуць кіраўнікі клуба.

У членаў клуба, які заснавалі "обветренный жизнью художник и тот, кто немного поэт", ёсць многа зусім канкрэтных планаў, і перашкодзіць іх ажыццяўленню можа, хіба што, востры недахоп грошай...

**Ірына ТРЫПУЗАВА**

## ФІЛАТЭЛІЯ Ў ГЛЫБІНЦЫ

У вёсцы Лунна Мастоўскага раёна адбылася цікавая культурная падзея, вельмі нетыповая менавіта для вёсак Беларусі — філатэлістычная выстаўка "Мой родны кут".

Найбольш актыўны ўдзел у ёй прынялі старшыні Гродзенскага і Беластоцкага таварыстваў філатэлістаў Ф. Гушча і А. Сцяпанчанка. Матэрыялы выстаўкі размясціліся на 40 стэндах. Увагу наведвальнікаў захапілі калекцыі "Адраджэнне Беларусі" М. Быхаўцава з Ваўкавыска, "Вялікі філосаф" А. Музыкі з Гродна, "Вялікая Айчынная вайна" і "Папа Ян Павел ІІ" Ф. Гушчы з Гродна, а таксама іншыя калекцыі з Гродзенскай вобласці і Польшчы. Кожны з наведвальнікаў атрымаў канверт ці паштоўку з маркай, пагашанай спецыяльнай пячаткай выставы.

## ЗАЛАТАЯ СТРУНА

Трыумфам закончыўся ўдзел харавой капэлы хлопчыкаў Брэсцкага абласнога Палаца культуры прафсаюзаў на Міжнародным музычным конкурсе ў Быдгошчы (Польшча). Журы, прадстаўленае вельмі патрабавальнай прафесурай з Бельгіі, Германіі, Францыі, пры 33 калектывах-удзельніках прысудзіла юным брэстчанам галоўны прыз конкурсу — Залатую струну.

Персанальнай прэміі ўдастоіўся саліст брэсцкай капэлы Саша Семянюк. Капэла павезла дамоў цудоўны магнітафон з кампакт-прайгравальнікам і грашовы прыз у памеры 600 долараў. Грошы хлопчыкі адзінадушна вырашылі прыберагчы для наступных паездак, бо гэтым разам ім давялося ехаць на бацькоўскія грошы.

**Намеснік рэдактара Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1140. Падпісана да друку 11.8.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**